ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№12 (117) снежань 2020 год

CATHOLICNEWS.BY



# Хрыстос нарадзіўся! Славім Яго!

**Віцебск,**
**Божае Нараджэнне 2020**

## Віншаванне Біскупа Віцебскага Алега Буткевіча са Святам Божага Нараджэння

**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, паважаныя суайчыннікі!**

Ужо хутка адыдзе ў гісторыю чарговы год нашага жыцця. Год 2020-ы. Нам вельмі хацелася б, каб разам з ім адышлі ў гісторыю і больш не вярталіся тыя цяжкасці і праблемы, якія ён нам прынёс. Мы молім аб гэтым Бога і спадзяёмся, што нас не пакіне. Таму з вялікай надзеяй сустракаем свята Яго нараджэння - нараджэння Слова, якое “...сталася целам і пасялілася між намі” (Ян 1,14). Менавіта такі адказ дае Бог чалавеку, які церпіць: “...вось Я з вамі ва ўсе дні, аж да сканчэння веку” (Мц 28,20). Я з вамі, каб вас умацаваць, каб даць вам сілу, каб разам з вамі ўзяць крыж. Узяць яго ўжо зараз тут, лежучы ў зімнай стайні, захутаным у матчыну хустку, сярод жывёлаў у іх жолабе з сенам.

І сярод цемры трываючага змроку Неба абвяшчае нам вялікую радасць! Радасць з таго, што нарадзіўся доўгачаканы Збаўца. Нарадзіўся Той, хто з’яўляецца “Дарогай, Праўдай, і Жыццём” (Ян 14,6). Хто нясе справядлівасць, любоў і прабачэнне. Той, хто пазней скажа пра сябе: “Я – святло свету. Хто ідзе за Мною, той не будзе хадзіць у цемры, але будзе мець святло жыцця” (Ян 8, 12). Нарэшце, Той, хто прыйшоў, каб зруйнаваць “мур варожасці” (Эф 2,14), які падзяляе людзей.

Таму нябесныя хоры анёлаў заклікаюць пастушкоў, людзей простых і адкрытага сэрца, каб прыйсці і пакланіцца Добраму Пастыру людскіх душаў. Таму зорка вядзе Мудрацоў з усходу, каб сваімі дарамі вызналі веру ў Каралеўскую моц, Святарскую веліч і Людскую годнасць Нованароджанага Валадара сусвету. Таму ўвесь свет глядзіць са здзіўленнем на незвычайныя Божыя справы.

Няхай жа і мы не застанёмся ў баку ад Падзеі, якую Бог падрыхтаваў для нас, каб распаліць нашае сэрца агнём сваёй Любові. Каб мы сталі больш адкрытыя і ўважлівыя адзін да аднаго, каб самі навучыліся любіць і цаніць тое, што маем у сваім жыцці, а перадусім само жыццё, як дар бязмежнай Божай мудрасці.

Хрыстос нарадзіўся! Славім Яго! І няхай гэтае Божае Немаўля стане для кожнага з нас крыніцай надзеі, святла і супакою. А Яго блаславеньне спадарожнічае нам і нашай роднай Беларусі праз увесь надыходзячы 2021 год.

**Са святам!**
**+ Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**

## ДЭКРЭТ

У сувязі з эпідэміяй каранавірусу з клопатам пра духоўнае і фізічнае здароўе вернікаў на перыяд Божага Нараджэння 2020 - 2021 года пастанаўляю наступнае:

1 Адмяніць традыцыйныя аплатковыя сустрэчы для духавенства Віцебскай дыяцэзіі;

2 Адмяніць традыцыйныя конкурсы батлеек і Каляднай песні.

3 У парафіях паводле разважлівага меркавання пробашчаў можна арганізаваць аплатковыя сустрэчы са святой Імшой або іншым адпаведным набажэнствам прадстаўнікоў асобных катэгорый вернікаў (дзяцей, моладзі, сем’яў і інш.), з максімальным захаваннем правілаў эпідэміялагічнай бяспекі;

4 Традыцыйныя душпастырскія візіты ў сем’і з блаславеннем дамоў або памяшканняў (так званая Каляда) могуць адбывацца выключна па запрашэнні асобных сем’яў або людзей з захаваннем рэкамендацый Міністэрства аховы здароўя і раней выдадзеных распараджэнняў касцельных уладаў;

5 Забяспечыць захаванне сацыяльнай дыстанцыі пры наведванні традыцыйных батлеек у касцёлах і капліцах або побач з імі;

6 Шаноўных святароў прашу стварыць магчымасць скарыстацца сакрамантальнай паслугай хворым і пажылым людзям па іх жаданні, захоўваючы пры гэтым усе сродкі эпідэміялагічнай бяспекі.

*З пастырскім блаславеннем на плённую падрыхтоўку да святаў Божага Нараджэння і радаснае іх перажыванне*

**Віцебск, 11 снежня 2020г.**

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**

# Тры “кавіды” Папы Францішка

**Папа распавёў пра сітуацыі са свайго жыцця, у якіх сутыкнуўся з цяжкасцямі падобнымі на тыя, якія многія людзі перажываюць цяпер у сувязі з пандэміяй каранавірусу.**

Успаміны Святога Айца былі змешчаны ў новай кнізе “Вернемся да мар” (Ritorniamo a sognare). Яна была напісана Папам Францішкам сумесна з брытанскім журналістам Остынам Айвэры і з’явіцца на паліцах італьянскіх кнігарняў у снежні. 23 лістапада 2020 г. урывак з кнігі апублікавала “La Repubblica”.

“У маім жыцці было тры “кавідныя” сітуацыі: хвароба, Германія і Кардоба”, — прызнаўся Папа. Ён нагадаў, што ў маладым узросце цяжка захварэў і знаходзіўся паміж жыццём і смерцю. Яму выдалілі частку лёгкага. “Я ведаю на ўласным досведзе, што адчуваюць хворыя з каранавірусам, якія змагаюцца за тое, каб дыхаць, падключаныя да апарату штучнай вентыляцыі лёгкіх”, — сказаў Пантыфік.

Папа Францішак падзяліўся ўспамінамі пра двух медсясцёр, дзякуючы якім застаўся жывы. Адна з іх мела велізарны досвед. Яна заўважыла, што прадпісаных урачом лекаў не хапае і стан хворага юнака пагаршаецца, таму распарадзілася падвоіць дозу. “Сястра Карнэлія Каральё ўратавала маё жыццё. Дзякуючы пастаяннаму кантакту з хворымі, яна лепш за ўрача ведала, што трэба пацыентам, мела адвагу выкарыстаць свой досвед”, — прызнаўся Папа.

Пантыфік заўважыў, што медсёстры змагаліся за яго жыццё да канца і навучылі яго “выкарыстоўваць веды і ўмець выходзіць за рамкі, каб адказваць на асаблівыя патрэбы”.

Святы Айцец прызнаўся, што хвароба навучыла яго пазбягаць сентыментальных форм суцяшэння. Ён заўважыў, што многія людзі прыходзілі да яго ў шпіталь і, выказваючы шкадаванне, запэўнівалі ў тым, што “ўсё будзе добра”. Такія словы, нягледзячы на добрыя намеры, ніколі не натхнялі яго. Наадварот было з жэстам манахіні, якая рыхтавала яго да Першай св. Камуніі. Яна проста ўзяла яго за руку, пацалавала і сказала: “Ты наследуеш Езуса”.

“Не было патрэбы ў тым, каб казаць нешта яшчэ. Яе прысутнасць, яе маўчанне, адарылі мяне глыбокім суцяшэннем. Пасля гэтага досведу я прыняў рашэнне казаць як мага менш, калі адведваю хворых. Я абмяжоўваюся тым, што бяру іх за руку”, — патлумачыў Папа.

Іншай “кавіднай” сітуацыяй Папа Францішак назваў сваё прабыванне ў Германіі, куды ён накіраваўся для вучобы. Пантыфік прызнаўся, што там адчуваў сябе вельмі самотным, не меў побач людзей, з якімі мог бы падзяліцца радасцямі. Але, нягледзячы на гэта, навучыўся цаніць тое месца, якое пакідаў.

Паводле Папы, “вырыванне з коранем” можа стаць перыядам аздараўлення і радыкальнай перамены. Так ён перажыў амаль двухгадовае прабыванне ў езуіцкім цэнтры ў Кардобе, якое ён параўнаў з каранцінам. У гэты час кс. Берголіа практычна не меў магчымасці пакідаць кляштару, займаўся спавяданнем і духоўным кіраўніцтвам, шмат маліўся, чытаў і пісаў. Менавіта тады ён прачытаў шматтомную “Гісторыі Пантыфікаў” Людвіга Пастара. Таму цяпер не здзіўляецца таму, што адбываецца ў Рымскай курыі і сучасным Касцёле.

Святы Айцец заўважыў, што з гэтых жыццёвых гісторый навучыўся многаму. Яны былі балючымі, але паказалі, што адкрытасць да змен дапамагае выйсці з крызісу лепшым.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*





# Пантыфік: ніякая пандэмія не можа загасіць каляднае святло

**Не спыняцца на калядных сімвалах, а глядзець глыбей, пазнаючы сапраўдны сэнс Божага Нараджэння, — заклікаў Папа Францішак сабраных 6 снежня 2020 г. на малітву “Анёл Панскі”.**

Пантыфік звярнуў увагу на ёлку і батлейку, якую ў гэтыя дні ўстанаўлівалі на галоўнай ватыканскай плошчы. “Гэтыя два калядныя сімвалы таксама прысутнічаюць у многіх дамах, на радасць дзецям – і нават дарослым. Яны з’яўляюцца прыкметай надзеі, асабліва ў гэты цяжкі час”, — сказаў Папа.

Ён заклікаў “не спыняцца на знаках, але ісці да сэнсу, да Езуса: да Божай любові, якую Ён нам адкрыў, да бясконцай дабрыні, ззянне якой Ён паказаў свету”.

“Няма такой пандэміі, няма такога крызісу, які мог бы загасіць гэтае святло. Дазволім жа яму ўвайсці ў нашыя сэрцы: працягнем руку тым, каму гэта больш за ўсё патрэбна, каб Бог зноў нарадзіўся ў нас і сярод нас”, — заклікаў Папа Францішак.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Святы Айцец зноў выказаўся супраць смяротнага пакарання

**Нагодай стала ініцыятыва Супольнасці св. Эгідзія і іншых грамадскіх арганізацый “Гарады за жыццё” (Cities for Life).**

“Памятайма, што нават забойца не губляе асабістай годнасці, і Бог сам становіцца яе гарантам. Цвёрдае непрыманне смяротнага пакарання дэманструе, наколькі магчыма прызнанне неад’емнай годнасці кожнага чалавека”, — напісаў Пантыфік 30 лістапада 2020 г. у сваім Twitter.

Мэтай – як сцвярджаюць арганізатары – найбуйнейшай у свеце мабілізацыі гарадоў і грамадзян супраць смяротнага пакарання з’яўляецца “гуманнасць і такая прававая сістэма, якая заўсёды будзе паважаць жыццё”. Колькасць краін, дзе гэта мера пакарання не ўжываецца законна або на практыцы, за апошнія гады вырасла да 142.



Гэта не першая такога роду дэкларацыя Францішка. У сваім відэа-звароце да ўдзельнікаў 7-га Сусветнага кангрэсу супраць смяротнага пакарання ён заўважыў, што калі гэта праўда, што грамадства сутыкаецца з вельмі сур’ёзнымі злачынствамі, якія пагражаюць агульнаму дабру і бяспецы асобных людзей, то гэтак жа дакладна, што сёння ёсць іншыя сродкі выкуплення віны, а турэмная сістэма ўсё больш і больш эфектыўная ў абароне грамадства ад зла, якое могуць прычыніць некаторыя.

“Ніхто не можа быць забіты і пазбаўлены магчымасці быць зноў прынятым супольнасцю, якой прычыніў крыўду і боль”, — заявіў Пантыфік. Ён нагадаў, што чалавек не губляе сваёй годнасці, нават калі здзейсніў самае сур’ёзнае злачынства.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.

**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# Зварот каталіцкіх біскупаў Беларусі

**Каталіцкія біскупы Беларусі кіруюць зварот да католікаў і ўсіх людзей добрай волі ў сувязі з паглыбленнем грамадска-палітычнага крызісу ў краіне.**

Наша бацькаўшчына Беларусь ужо чацвёрты месяц знаходзіцца ў нябачаным дагэтуль грамадска-палітычным крызісе, які, на жаль, паглыбляецца. Насілле не спыняецца, надалей праліваецца кроў, грамадства падзелена. Гэта не прадвяшчае нам шчаслівай будучыні, бо, як казаў Хрыстус, дом, падзелены сам у сабе, не выстаіць (пар. Мц 12, 25).

Цяжка паверыць, што такое адбываецца ў нашай міралюбнай краіне, вядомай сваёй талерантнасцю і згодай паміж людзьмі розных веравызнанняў і нацыянальнасцяў.

Каталіцкі Касцёл, кіруючыся Евангеллем і пабудаваным на ім сацыяльным вучэннем, выказваецца супраць насілля, беззаконня, несправядлівасці і няпраўды і асуджае іх. Касцёл заклікае да мірнага вырашэння ўзніклых праблем шляхам дыялогу ў духу любові да Бога і бліжняга, з захаваннем Божых і чалавечых законаў.

Мы, каталіцкія біскупы Беларусі, далучаемся да звароту Папы Францішка, скіраванага ім пасля малітвы "Анёл Панскі" 13 верасня 2020 г. да дзяржаўных уладаў. У ім Пантыфік заклікаў прыслухацца да голасу суграмадзянаў і пайсці насустрач іх законным імкненням, забяспечваючы поўную павагу да правоў чалавека і грамадзянскай свабоды.

Пры гэтым мы хочам падкрэсліць, што галоўная мэта Касцёла — абвяшчаць Евангелле дзеля пабудовы Божага Валадарства, якое не кіруецца прынцыпамі гэтага свету і не прэтэндуе на зямную ўладу. Таму Касцёл не выконвае дзяржаўных функцый і не можа нікім выкарыстоўвацца ў палітычных мэтах.

У гэты лёсавызначальны час гісторыі нашай бацькаўшчыны, як навучаў святы апостал Павел, мы павінны несці цяжар адзін аднаго (пар. Гал 6, 2), аказваць узаемную падтрымку і салідарнасць дзеля будавання згуртаванай, а не падзеленай Беларусі.

Звяртаемся да католікаў і ўсіх людзей добрай волі з заклікам працягваць узносіць свае малітвы ў інтэнцыі хуткага і мірнага вырашэння крызісу, бо благаслаўлёныя міратворцы і тыя, хто імкнецца да справядлівасці, як кажа Хрыстус. Няхай дабро пераможа зло.

**Мір і дабро табе, наша бацькаўшчына Беларусь!**

**Каталіцкія біскупы Беларусі**
Мінск, 25 лістапада 2020 г.

# Паведамленне біскупа Алега Буткевіча ў сувязі з арыштам кс. Вячаслава Барка


Ксяндза Вячаслава Барка забіраюць на "суткі", 3 снежня 2020 г.

**3 снежня 2020 г. пробашч парафіі Святога Язафата Кунцэвіча ў Расонах (Полацкі дэканат) кс. Вячаслаў Барок паводле пастановы суда Расонскага раёна быў асуджаны на 10 сутак арышту па артыкуле 17.10 Кодэксу аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь па абвінавачванні ў "прапагандзе нацысцкай сімволікі ці атрыбутыкі".**

Падставай для судовага працэсу стала публікацыя на асабістай старонцы святара ў адной з сацыяльных сетак плакату палітычнага зместу, які, паводле перакanaння кс. Вячаслава і аўтара плакату, мае антыфашысцкую скіраванасць. Суду святар растлумачыў, што ён выступае "супраць фашызму, камунізму, любога таталітарнага рэжыму" і што згаданы плакат быў ім размешчаны як выраз "пратэсту супраць гвалту ў краіне".

Тым не менш складаецца ўражанне, што яго тлумачэнні не былі прынятыя судом да ўвагі, у выніку чаго кс. Вячаславу Барку быў вынесены абвінаваўчы прысуд, з якім святар не пагадзіўся, і з якім не магу пагадзіцца таксама і я. Бо кс. Вячаслава фактычна абвінавацілі ў тым, супраць чаго ён сам выступаў.

У сувязі з гэтым выказваю сваё засмучэнне і лічу, што гэтая справа павінна быць перагледжана з улікам меркавання незалежных экспертаў, а таксама дадзеных кс. Вячаславам тлумачэнняў, з якіх вынікае адсутнасць у яго намеру прапаганды нацысцкай сімволікі ці атрыбутыкі, у чым яго беспадстаўна абвінавачваюць, вынікам чаго павінна стаць зняцце абвінавачванняў і неадкладнае вызваленне святара.

Разам з тым, я не выключаю магчымасці, што факт размяшчэння святаром на яго асабістай старонцы ў сацыяльнай сетцы плакату палітычнага зместу мог быць па-рознаму ўспрыняты рознымі людзьмі, у сувязі з чым лічу неабходным папрасіць прабачэння ў тых, у каго падобны змест выклікаў негатыўную рэакцыю, яшчэ раз запэўніўшы ў адсутнасці ў кс. Вячаслава Барка намеру прапаганды нацысцкай сімволікі.

Усіх вернікаў і людзей добрай волі заклікаю да малітвы ў інтэнцыі гэтай справы, а таксама ўсёй нашай краіны, каб сярод нас было больш любові і ўзаемнай павагі, а таксама імкнення да пошуку і прыняцця праўды, і жыцця паводле законаў: так дзяржаўнага, як і Божага.

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**
**Віцебск, 04.12.2020г.**


Ксяндза Вячаслава Барка сустракаюць пасля вызвалення, 3 снежня 2020 г.

# Яшчэ два святары затрыманы ў Віцебску

**У другой палове дня 8 снежня ў Віцебску былі затрыманыя айцец Віктар Жук, езуіт, пробашч мясцовай парафіі святога Уладзіслава, а таксама айцец Аляксей Варанко, вікарый грэка-каталіцкай парафіі Уваскрасення Хрыстовага.**

Святары былі затрыманыя і дастаўленыя ў Першамайскі РАУС г. Віцебска, дзе знаходзіліся да суду, прызначанага на 9 снежня.

Як паведамілі родныя аднаго з затрыманых святароў, што айца Віктара і айца Аляксея абвінавачваюць па артыкулах Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях.

На судзе, які праз скайп вёў суддзя Міхаіл Юрчанка, усе тлумачылі, што не ладзілі пікет, а маліліся за жыхароў Беларусі. Пры гэтым а. Аляксей Варанко трымаў бел-чырвона-белы сцяг.Айцец Віктар Жук SJ належыць да Таварыства Езуса (ордэна езуітаў) — таксама, як і Папа Францішак. Святар з'яўляецца аўтарам нядзельных казанняў, якія публікуюцца на партале Catholic.by.




Родныя і блізкія святароў просяць падтрымаць іх малітваю ў цяжкім выпрабаванні.

Суд пастанавіў, што ў дакументах справы недастаткова звестак, каб прыняць рашэнне. Таму яе накіравалі на дапрацоўку ў Першамайскі РАУС. 9 снежня святары былі вызвалены з-пад варты да суду.

Дата працягу судовага працэсу пакуль невядомая.

*По матэрыялах catholic.by і "Радыё Рацыя"*

Каталіцкі ВЕСНІК №12 (117) снежань 2020 г.

# За што пазбаўлялі волі святароў

**Калі мы кажам "рэпрэсіі ў БССР", то найчасцей маем на ўвазе 30-я гг. ХХ ст., і ўзгадваем пра іх пік у 1937 г. Аднак, савецкая сістэма заставалася вернай сваім мерам уздзеяння і ў пасляваенны перыяд.**

**Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук (Мінск)*

Пачынаючы з 1944 г. у полі зроку савецкіх уладаў апынулася насельніцтва акупаваных падчас ІІ Сусветнай вайны земляў саюзных рэспублік, у тым ліку Беларусі. "Знаходжанне на акупаваных тэрыторыях" высвятлялася, пазначалася ў анкетах і станавілася адным з паказчыкаў нядобранадзейнасці асобы. Адразу ж пасля чарговага ўсталявання савецкай улады на тэрыторыі БССР у поле іх зроку трапіла духавенства.

Ёсць звесткі пра 95 асуджаных святароў у пасляваенны перыяд, што складае 42% ад іх агульнай колькасці. Духавенства найчасцей судзілі па 72 артыкуле Крымінальнага кодэкса БССР. Ён быў найбольш сур'ёзным і ў той жа час найбольш універсальным для прад'яўлення абвінавачання. У ім прадугледжвалася: "а) Пропаганда или агитация, содержащие призыв к свержению, подрыву или ослаблению советской власти, или к совершению отдельных контрреволюционных преступлений (ст.ст. 64–71), а равно распространение, или изготовление, или хранение литературы того же содержания влекут – лишение свободы на срок не ниже шести месяцев. б) те же действия при массовых волнениях или с использованием религиозных или национальных предрассудков масс, или в военной обстановке, или в местностях, объявленных на военном положении, влекут – меры социальной защиты, указанные в ст. 64 настоящего кодекса".

66 святароў (што складала 69% ад агульнай колькасці асуджаных) былі пазбаўлены волі менавіта на аснове 72 артыкула. Ён з'яўляўся асноўным альбо адным з некалькіх пры вынясенні прысудаў. Па звестках упаўнаважаных па справах рэлігійных культаў, "За связь и поддержку антигосударственных и бандитских элементов, за непосредственное участие в антисоветской и шпионской деятельности в период с 1946 г. по 1 июля 1950 г. арестовано и осуждено на разные сроки тюремного заключения 62 ксендза. Чувствуя за собой вину перед государством и боясь понести наказание за свою антисоветскую деятельность 10 ксендзов сбежали".

Абмежаванасць памеру газетнага артыкула не дае магчымасці распавесці гісторыю кожнага з асуджаных. Аднак, можна вылучыць асноўныя афіцыйныя прычыны, якія прыводзілі да зняволення святароў і афармляліся ва ўжо вядомы 72 артыкул.



СССР
МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ
Форма А
АЕ
СПРАВКА № 059362 1н.
16. июля 1956 г.
Выдана гражданину(ке) Воронецкий Михаил Викторович
год рождения 1908 национальность поляк
уроженцу(ке) местечко Новая-Вилейка Литовской ССР в том, что он(она)
содержался(ась) в местах заключения МВД с 25 мая 1949 г.
по 16 июля 1956 г., откуда освобожден(а)
по решению Ком. През. Верх. Сов. СССР протокол 29 от 14.7.1956 г. на основании указа от 24.3.1956 г. През. Верх. Сов. СССР освободить со снятием судимости
Следует к месту жительства г. Вильнюс (город, село, район, область) Литовской ССР
Начальник лагеря (колонии, тюрьмы) (подпись)
Начальник отдела (части) (подпись)

Даведка аб вызваленні святара Варанецкага.




### "Захоўванне антысавецкай і контррэвалюцыйнай літаратуры"

Да яе маглі быць залічаны любыя рэлігійныя выданні. Напрыклад, у прысудзе ксяндзу Міхалу Варанецкаму адзначалася, што: "Подсудимый Воронецкий, проживая в селе Лысково, Ружанского района, Брестской области и являясь настоятелем Лысковского римско-католического костела, с 1945 года хранил в своей квартире и в помещении костела книги и журналы антисоветского содержания, со статьями, направленными против Советского Союза и Коммунистической партии, которые у него в 1948 и 1949 г. были обнаружены и изъяты. Кроме этого, Воронецкий, будучи враждебно настроенным по отношению к Советской власти, в разное время на протяжении 1948–1949 годов высказывал среди окружающих его лиц, антисоветские клеветнические измышления. При этом клеветал на Советский строй, а также высказывал враждебные выпады на одного из руководителей Советского государства и одновременно восхвалял жизнь и порядки при бывшей буржуазной Польше. В суде Воронецкий виновным себя признал (...)". Быў арыштаваны 25.05.1949 г. і асуджаны па арт. 63-1, 76, 72 "б", 34 "а", "б" на 25 год выхаваўча-працоўных лагераў (ВПЛ), 5 год пазбаўлення правоў і канфіскацыю маёмасці.

"Антысавецкую і контррэвалюцыйную" літаратуру ў духавенства масава выяўлялі спецыяльныя рэйды, якія складаліся з упаўнаважаных райсаветаў і прадстаўнікоў райлітаў. У верасні 1953 г. да кс. Ю. Марсангера (Краснае) дадому з вобыскам прыйшлі 12 прадстаўнікоў уладаў. Знайшлі "Гісторыю філасофіі" Альберта Стокля ў апрацоўцы а. Францішка Квяткоўскага. Выявілі там крытыку марксізму. За захоўванне гэтай кнігі ксяндза затрымалі, але ненадоўга.

У працы па выяўленні "антысавецкай літаратуры" удзельнічалі і ўпаўнаважаныя савета па справах рэлігійных культаў. Так, у 1947 г. упаўнаважаны па Пінскай вобласці Багдановіч пісаў: "В январе м-це мною совместно с райлитом была проведена проверка библиотек религиозных культов. (...) обнаружено в кафедральном костеле гор. Пинска контрреволюционная брошюра и ряд контрреволюционных вкладок в литературу наших классиков. Настоятелем этого костела был ксендз Василевский". На момант гэтый праверкі ксёндз Ян Васілеўскі (генеральны вікарый Пінскай дыяцэзіі) ўжо амаль паўтары гады як быў арыштаваны (са жніўня 1945 г.). Гэта быў не першы арышт святара. У сваёй аўтабіяграфіі ён адзначаў "В 1919 был арестован в Ленинграде в качестве польского заложника; В 1922 был осужден за невыдачу церковных ценностей в Минске на пять лет строгой изоляции". Кс. Васілеўскі памёр у ссылцы ў Казачынску над Енісеем у 1948 г.

Падобна сітуацыя выглядала і ў Хожаве. Кс. Пятра Пупіна 30.01.1948 Маладзечанскі аблсуд асудзіў на 25 год з паражэннем у правах на 5 год па арт. 72 "б", і 149. Яго бібліятэку таксама рэвізаваў упаўнаважаны, які адзначыў: "Работая в 1946-1948 годах в Молодечненском райкоме партии, по заданию Облита, лично мною проводилось проверка наличия книг и другой литературы в Хожевском костеле, где тогда ксендзом был Петр Пупин. При проверке было обнаружено в костеле большое количество книг и другой литературы, среди которых были книги и брошюры фашистского, контрреволюционного содержания, как например: "Майн Кампф" - Гитлера, "Коминтерн атакует молодежь", "Моя поездка в СССР", и др. Всего было изъято в пределах 500 книг и брошюр".

### "Антысавецкая агітацыя"

Да яе маглі быць залічаны любыя выказванні, як на палітычная, так і рэлігійныя тэмы. Напрыклад, кс. Уладзіслаў Красоўскі, пробашч у Галынцы, быў арыштаваны 29.10.1947 г. і асуджаны пасля 15-месячнага следства. Абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі на падставе арт. 72 "б", і 64 на 25 год лагераў, 5 год пазбаўлення грамадзянскіх правоў і канфіскацыю маёмасці.

Да "антысавецкай агітацыі" была залічана і дзейнасць святара Тракельскага касцёла Міхала Шалкевіча. Да яе праяў адносілася, напрыклад, тое, што ён: "хоронивши на приходском кладбище лиц, какие были убиты как бандиты при ликвидации бандитских групп, на крестах, ставивших около погребенных, появлялись надписи "погиб от руки советов". Сам Шолкевич дважды не принимал участия в выборах Верховных Советов ССР и БССР". У 1949 г. кс. Шалкевіч быў арыштаваны і асуджаны Гродзенскім аблсудом па артыкулах 72б і 73 тэрмінам на 10 год ВПЛ і паражэнне ў правах на 7 год. Ад пазбаўлення волі святара не ўратавала нават тое, што ў 1948 г. ён уратаваў жыццё фінансавага агента мясцовага калгаса Чарнецкай і не аддаў узброенай бандзе дзяржаўных грошай, якія з мэтай лепшай захаванасці знаходзіліся ў касцёле. Апошні факт быў дакументальна засведчаны.

Да "антысавецкай агітацыі" залічваліся любыя дзеянні і выказванні святароў, якія дзяржаўныя ўлады інтэрпрэтавалі так, як ім гэта было патрэбна. Напрыклад, адзначалася, што кс. Ян Мяноўскі з мястэчка Рагозніца "в период подписания письма т. Сталину от белорусского народа отказался подписать письмо, заявил "это дело политическое, мы в политику не вмешиваемся". В период сбора граждан д. Рогознице на собрание для подписания письма Миновский открыл костел и стал проводить в нем богослужение, чем сорвал собрание, так как народ д. Рогознице весь пошел в костел". Падобныя сітуацыі прывялі да арышту святара 20.08. 1947 г. Асуджаны па арт. 72 "б" на 10 год ВПЛ, 5 год пазбаўлення правоў і канфіскацыю маёмасці.

Бачна падобная інтэрпрэтацыя паводзін і выказванняў кс. Горбы з Зельвы "Горба Альбин Иванович несколько раз присутствовал, где проходила строевая подготовка допризывной молодежи.

⇒

# у пасляваеннай БССР?

⇒ На приветствие командира допризывники ответили “служим Советскому Союзу” в это время подошел к допризывникам ксендз Горба и спрашивает: “кому, кому служите?”, после чего стал часто собирать допризывников в костеле, в результате допризывники, когда проходили около костела в строю, или же при встрече с ксендзом, снимали шапки. Горба арестован органами МВД”. Ксяндза арыштавалі 11.12.1945. 18.11.1947 г. яму былі прысуджаны 8 год лагераў, 5 год пазбаўлення грамадзянскіх правоў, і канфіскацыя маёмасці (арт. 72 б, і 34 а і б).

Лідскі ксёндз-дэкан і адміністратар парафіі Ліда-Слабодка Казімір Баневіч быў арыштаваны ў 1951 г. Гэтаму папярэднічалі такія звесткі пра святара: “15 августа 1948 г. Баневич в разговоре с верующими заявил: “что нажим на религию идет с Востока, что в Минске позакрыли все костелы”. Такое заявление безусловно предсматривает цель создания недовольствия среди верующего населения в Советской власти”.

Кс. Антоні Куява, мосарскі пробашч, быў арыштаваны 16.01.1949 г. Абвінавачаны ва ўдзеле ў антысавецкіх з’ездах ксяндзоў і антысавецкай прапагандзе. Асуджаны 21.05.1949 г. на падставе артыкулаў 63-1 і 72 “б” на 25 год лагераў, 5 год пазбаўлення грамадзянскіх правоў і канфіскацыю маёмасці.

Можна сказаць, што 72 артыкул быў вельмі зручным пры неабходнасці пазбавіць святара волі. Такую сітуацыю можна назіраць у выпадку з кс. Мечыславам Малынічам, які працаваў на тэрыторыі Усходняй Беларусі (Слуцк, Бабруйск, Асіповічы). Ён меў юрыдычную адукацыю, таму інтэнсіўна намагаўся прававаемі шляхамі дабіцца рэгістрацыі абшчын і адкрыцця касцёлаў у названых гарадах. Ксёндз збіраў дакументы, неабходныя для рэгістрацыі і масава, на ўсе магчымыя адрасы дасылаў заявы, скаргі і патрабаванні аб рэгістрацыі абшчын. Адзін з такіх лістоў прыведзены ніжэй *(з захаваннем арфаграфіі дакумента)*:

“В Верховный Совет БССР в Минске
И Верховный Совет СССР в Москве
По делу открытия костелов в СССР
Ксендза Мечислава В. Малынича
Р-кат свящ. в Слуцке, Бобруйская обл.
Ул. Кладбищенская, 49

**Жалоба**.

Обращаюсь с жалобой и просьбой в Верх. Совет так, как не знаю где уже и найти дорогу к решению дела открытия костелов (р-кат. Церквей) в БССР и СССР.

В конце 1944 г. после освобождения Зап. Белоруссии от немцев я получил от Виленского (и Зап.Белор.) Митрополита командировку отправится в Восточную Белорусь для удовлетворения дух. Треб местных католиков по их просьбе. (Уп. Культов С.Н.К. СССР Бобруйскому костелу 6/10.1945 №291 и 334; Уп. Культов БССР Минск-Фащовке 12-10.1945 г.: “обращайтесь к своему епископу”, “обращайтесь к самим ксендзам”). Казалось мне это дело простое – “церковь отделена от государства”, никто не будет помогать, но и мешать, как напр. в США. Путь, однако, оказался непростым. В Минске сказали, что “религиозное общество” нужно зарегистрировать в данной области. Требуемые прошения с 20 подписями в Минск или Бобруйск послали следующие приходы: Слуцк, Бобруйск, Осиповичи, Замостье, Тимковичи, Копыль, Бобовня (в трех последних местностях есть в радиусе 15 км. около 10 тысяч католиков.) Писал я и в Бобруйск 17.07.-44 г., 18.6.45 – в Минск, 20.6.45 г. – в Москву СНК СССР, 17.3.1945 г. 18.6.45 и телегр. 18.8.45 г. с оплачен. ответом. Все упомянутые приходы я мог бы обслуживать раз в месяц или на два месяца.

Послали прошения, как мне известно, еще приходы: Койданов, Борисов, Могилёв, Фащовка, Мозырь, конечно Минск и многие другие. В Бобруйск.обл. тогдашний зам.уполномочен.по религ.д. Кульшов тов. Шеленговский, уп.по р.д. прав.церкви от своего имени и от имени тов. Маслова уп.по рел.д. Кульшов республики дал мне устный ответ 30.1.1945 г. что костелов не зарегистрируют потому, что “нет сношений с епископом”. Мне однако известно, что приезжал в Минск представитель р-кат. Виленского (и Зап.Белор.) Метрополита для переговоров и “сношений”. А тов. Маслов в ответе Фащовке писал после того (12-9-45 г.) “за ксендзами обращайтесь к самим ксендзам”. Допускались и предолагались сношения. Не указано мне где обратиться с апеляцией от такого несправедливого решения, вредного для граждан и государства. Я писал в Москву 17.03 и 18.06-45 г. и телеграф. 18.8.45 г. с оплоч. Ответом к уполн. По р.д культов при СПК СССР и наконец 20.9.45 г. к вождю Сов. Союза. Но ответа не получил, если не считать визита в феврале или марте с.г. Уполномоченного в мое квартире в Слуцке в мое отсутствие, который проверил по милиционерски домовую книгу, и мою приписку, заявил:

1.Конечно, кс. Малынич как гражданн может жить где хочет, но не может делать “никаких зборищ” и богослужений.

2.Скажите ему – мы считаем, что он нас не признает?!

3.И что он делает подрыв религии, правя богослужение в такой квартирке (4*5 мт.). “Подрыв религии” - не судить об этом человеку, который, как видно, не знает начал религии: в первых веках христианства богослужение правилось в погребах, гробах, катакумбах Богу который стал человеком, родившись в бедном сарае а умер на кресте.

Кто кого не признает. Тот ли, кто посылает прошение за прошением, или тот, кто гражданину не дает законного ответа, и законного решения. Я демократ, не любил и не люблю выставать по коридорам и передним министров, но в культурном государстве на прошение должен быть обоснованный законный ответ.

Спасибо уполномоченному пока по антирелиг. делам за разрешение мне жить и дышать, если нельзя работать. Но почему в таком случае сконфисковано мою квартиру, оплачиваемую в Бобруйске по Октябрьской ул. № 175

Однако если не мне, то католикам, советским гражданам полноправным полагается что то побольше. Государственные обязанности они исполняли и исполняют наравне с православными, дали преобильную дань крови в войне, германцам служила сравнительно меньше католиков чем православных. Почему же католики не имеют в Восточной Белоруссии ни одного костела, а православным открыто большинство церквей.

Потому ли, что германцы открыли много церквей и привезли много духовенства православного, а не пустили католического: ехавших сюда 15 р. кат священников вернули, а нескольких расстреляли.

Разве германская политика пригожа советским деятелям?

Прошу Верховный совет от своего имени и от имени сотен тысяч запуганных войною католиков повлиять на государственные учреждения, чтобы католики получили равные права с православными. Открытие костелов и разрешения богослужений римско-католических по деревням”.

Вынік такой актыўнасці быў прадказальны – ксяндза М. Малыніча арыштавалі ў 1947 г. Прысуд быў вынесены 3 студзеня 1948 г.: 7 год ВПЛ за “антысавецкую агітацыю”. Ні адна заява аб рэгістрацыі абшчыны на тэрыторыі Усходняй Беларусі задаволена не была.

## “Сувязь з падпольнай антысавецкай арганізацыяй Армія Краёва”

Сувязь з Арміяй Краёвай лічылася адной з праяў варожай антысавецкай дзейнасці. Па абвінавачанні ў супрацоўніцтве з ёй быў асуджаны, напрыклад, кс. Браніслаў Грынявіцкі. Аднак, адным з повадаў стала, відавочна, наступнае: “ксендз костела Вирейки Гриневицкий в 1946 году отказался весной принять план посева сахарной свеклы, ряд прихожан его прихода, взаимствуя его примеру, также отказалась сеять сахарную свеклу”.

За сувязь з АК быў арыштаваны і асуджаны кс. Ян Венажэндзіс (Пелясы). Арыштаваны ў 1951 годзе. Абвінавачваўся ў злачынствах супраць савецкай улады, у тым ліку ў кіраванні ў міжваенны перыяд антысавецкай арганізацыяй Каталіцкая Акцыя, кантакты з нямецкай жандармерыяй у час нямецкай акупацыі, падтрымку АК і прыняцце яе членаў на плябаніі, удзяленне шлюбу членам АК, навучанне дзяцей катэхізісу, захоўванне антысавецкай літаратуры, распаўсюджванне нянавісці да СССР. Прысуд вынесены 1.09.1951 г. па арт. 24-63-1 і 72 “б”: 10 год лагераў і канфіскацыя маёмасці.

## “Удзел і кіраўніцтва антысавецкай моладзевай арганізацыі “Акцыя Каталіцкая”

Распаўсюджаная ў міжваенай Польшчы (і ў іншых краінах) арганізацыя “Акцыя Каталіцкая” была арганізацыяй свецкіх асоб, у дзейнасць якой уключалася і духавенства. Аднак, у пасляваенны перыяд у СССР звесткі аб удзеле ў яе дзейнасці расцэньваліся як праява варожасці да савецкага ладу. Абвінавачанне ва ўдзеле ў гэтай арганізацыі стала адным з асноўных пры вынясенні прысуду для кс. Юзафа Навасадка, пробашча і дэкана ў Тэоліне (Сапоцкіне). Арыштаваны 18.10.1949 г. 26.12.1949 г. асуджаны на 10 год ВПЛ і 5 год паражэння ў правах па арт. 72 “б”.



Анкеты на святароў



## “Выхаванне дзяцей у антысавецкім духу”

Паколькі любыя формы катэхізацыі былі забаронены, парушэнне гэтай забароны магло стаць адным з абвінавачванняў духавенства. Так адбылося, напрыклад, з кс. Вацлавам Бекішам (Солы), асуджаным на 25 год ВПЛ.

Некаторыя святары былі асуджаны неаднаразова. Напрыклад, адміністратар касцёла ў Празароках кс. Вікенцій Варш (Варша) першы раз быў арыштаваны там жа і асуджаны па ст. 72 “б” на 25 год ВПЛ. Вызвалены ў 1954 г. з-за інвалідства, вярнуўся ў Празарокі, аднак не атрымаў там рэгістрацыі. Ва Украіне таксама не мог атрымаць рэгістрацыю. Вярнуўся ў Беларусь, вандраваў па розных парафіях, бо не мог атрымаць рэгістрацыі. У студзені 1960 г. у Мінску быў арыштаваны і асуджаны на 2 гады як “паплечнік Ватыкану і падпольны місіянер”.

Большасць рэпрэсаваных адбывала прысуд не поўнасцю. Перагляды спраў адбываліся па масавых хадайніцтвах вернікаў і ўласных апеляцыях асуджаных. Аднак, масавы перагляд спраў пачаўся толькі з 1953/1954 гг. У выніку, да 1957 г. усе асуджаныя святары, якія на той момант адбывалі пакаранне, былі датэрмінова вызвалены.

*Пры падрыхтоўцы выкарыстаны матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Маладзечанскага занальнага архіва, архіва ксяндзоў-місіянераў у Кракаве, даследаванні кс. Р. Дзванкоўскага*



СВЕДЕНИЯ

о количестве служителей католического культа возвратившихся из мест заключения зарегистрированных настоятелями костелов в 1954-1957 годах:

I. Завистовский И.Б., рождения 1894 года, зарегистрирован ксендзом Парафьяновского костела, Докшицкого района 2.XI.1954 года.

2. Дулинец А.И., рождения 1885 года, зарегистрирован ксендзом Будсловского костела, Кривичского района 3.XII.1954 года.

3. Пупин П.П., рождения 1912 года, зарегистрирован ксендзом Рубижевичского костела, Ивьевского района I.VII.1955 года.

# Праздник к нам приходит: психологический взгляд на праздничное настроение

**Зима, и в частности декабрь, у многих вызывает детские воспоминания о том, с каким нетерпением мы ждали зимние праздники, наполненные весельем, подарками и волшебством. Когда мы вырастаем, начинаем понимать, что весь этот праздничный антураж не происходит по взмаху волшебной палочки (так многие из нас думали в детстве), а зависит от нас самих и наших усилий.**

**Марина Ткач**, *психолог*



Помня про эти усилия, мы и пытаемся создать максимально праздничное настроение. Но есть и те, кто не разделяет этой праздничной эстафеты за настроением, аргументируя это тем, что всё это наивно, уж очень по-детски и вообще возраст уже не тот, чтобы так радоваться зимним праздникам. Сложный, тяжёлый и насыщенный на события 2020-й год чётко обозначил эти два лагеря в обществе: тех, кто радуется не смотря ни на что и тех, кто считает, что праздничное настроение неуместно в сложившейся ситуации.

И как же тогда быть? Первое чего не стоит делать никогда – это быть агрессивно настроенными по отношению к людям, которые ведут себя не так как вы или не так, как этого требуют принятые традиции праздника.

С психологической точки зрения, настроение – это всегда реакция на какое-то событие. Поэтому грусть, сожаление, переживание, горевание – это нормально. Точно так же, как и радость, счастье, веселье. Это все реакции на события в жизни, и они должны быть разными, потому что и события тоже разные.

Возвращаясь к теме праздника стоит сказать, что праздничное настроение может проявиться само по себе, если у человека всё хорошо, есть силы и здоровье. Если праздничное настроение не появляется, то это показатель того, что ваш личностный ресурс истощён либо задействован на переживание негативных эмоций. И в этом моменте нет ничего ужасного, как я уже говорила, это нормально. Более того многие психологи и психоаналитики сходятся во мнении, что, если кто-то грустит и пытается заставить себя радоваться, это быстрее может привести к различного рода расстройствам. Здесь важно набраться терпения и позволить себе максимально пережить эти эмоции, не обесценивая их и не ускоряя процесс переживания.

Если вы всё-таки хотите чувствовать "какую-то радость и лёгкость", хотите выйти из подавленного эмоционального состояния и обрести то самое праздничное настроение, нужно помнить о следующем:

**Сфокусируйтесь на маленьких радостях.** Нужно постараться вернуть или сохранить те ритуалы, которые создавали настроение и до наступления зимних праздников. Схема перехода от одних эмоций к другим достаточна сложна, и выйти сразу в радость очень сложно, потому что это требует много сил. Но можно попробовать пойти в ту область, где нужно мало энергии, но есть много интереса, например, музыка, фильмы, кулинарные умения или выбор подарков, или даже чтение книги. У каждого из нас есть определённый опыт, как справляться со сложностями, пришло время его использовать.

**Всегда помните о себе.** Важно найти баланс между предпраздничной суетой и собственными желаниями и возможностями. Прислушивайтесь к себе и поддерживайте. Что я имею в виду? Если подготовка к праздникам отнимает больше сил, чем хочется, или чем у вас есть, попробуйте отказаться от каких-то вещей, тщательно планируйте то, что делаете (это уменьшит тревожность по поводу того, что вы не успеваете) и делегируйте свои полномочия кому-либо ещё, например, близкие тоже могут принимать участие. В этом и заключается помнить о себе.

**Подведите итоги года.** Подведение итогов – это всегда оценка себя и своих достижений. Весьма вероятно, что планов было больше, чем свершений, возможно, что-то не удалось. И это не повод, чтобы переживать и тем более винить себя. Если вам кажется, что ничего не получилось, обратите внимание на положительные достижения и моменты, я уверена, что у каждого хотя бы один такой момент обязательно найдётся. А вот анализ того, "почему не получилось", отложите на менее эмоционально напряжённый период. Порадуйтесь тому, что вы пережили ещё один год, вы справились и приобрели определённый жизненный опыт. И обязательно похвалите себя за все свои достижения, как большие, так и маленькие. Специалисты предлагают придумать себе награду за любое достижение.



Калядныя святы ў Дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры св. Лукі, 20.12.2016. *Фота caritas.by*

**Придерживайтесь плана.** Данный пункт в сохранности праздничного настроения так же важен. Любое планирование (хотя бы в общем виде) поможет снизить тревожные чувства. Составление плана, как вы проведете предпраздничный период и сами праздники, позволит чувствовать себя более уверенно. Более того, всех нас ждут праздничные выходные. Это то время, когда мы как бы "выпадаем" из привычного рабочего ритма, когда все чётко по плану и времени. Есть даже такое явление как "невроз выходного дня". Он заключается в том, что в выходные мы сталкиваемся с двумя никак не регламентированными днями, которые, казалось бы, можно потратить на что угодно, но мы тратим их на ленивое времяпрепровождение, Интернет, просмотр телевизора или другие занятия, от которых остаётся ощущение пустоты и неудовлетворенность. А новогодние праздники несут нам не два, а гораздо больше таких дней. Поэтому постарайтесь распланировать хотя бы часть праздничных выходных, чтобы провести их комфортно и отдохнуть.

**Рекламная картинка праздника.** "Надо" почувствовать себя хорошо. "Надо" встречать праздники в веселой компании. "Новый год и Рождество – это обязательно семейные праздники". Мы слышим это из года в год и у нас появляется абсолютно чёткая картинка, что праздники должны быть обязательно шумными, в большой компании, с семьей и друзьями, "положено" радоваться, иметь большую гору подарков, не спать всю ночь, ходить в гости…

И в этой ситуации собственные ожидания от праздника накладываются на рекламную картинку, а потом разбиваются о суровую реальность. Это очень тонкий психологический момент: когда вы смотрите на собственный праздник через призму рекламной картинки, то реальная жизнь, которая, скорее всего, хотя бы в общем, вас устраивает, сразу блекнет и не дотягивает до заданного уровня. Потому что вы можете не любить шумные, весёлые компании, не любите не спать до утра, да может и друзей у вас не так много… Что делать? Не пытаться соответствовать, а позволить себе иметь тот праздник, который нужен вам и который вас устраивает. Празднуете в компании друзей? Отлично. Празднуете с семьёй? Прекрасно. Празднуете в гордом одиночестве? Ничего страшного. Позвольте себе тот формат и то настроение праздника, которые вам нужны.

Этот год, безусловно, был сложным, но в тоже время ресурсным, так как показал нам не только наши возможности, но и забытое значение таких ценностей как вера, любовь, забота, внимание, поддержка. И за это стоит поставить ему большой плюс в наших списках достижений.

Хочу, чтобы вы помнили, наступающий год в одночасье не станет лёгким. Но наша задача остаётся прежней – мы должны постараться и дальше справляться с происходящим. А счастье и радость будут в том, в чём мы захотим их увидеть.

**Хороших и радостных вам праздников!**



*Фота naukawpolsce.pap.pl*

# Двое беларусаў у супольнасці Сэрцанаў склалі вечныя манаскія абяцанні

**“Вось я, пашлі мяне” — адказвае прарок Ісая Тройчы Святому, Які кліча яго. Менавіта гэты прарок, які Моцай Божай прамаўляе да нас у часе радаснага чакання Пана, дае моцны прыклад адкрытасці на Волю Найвышэйшага.**

■ **кл. Аляксандр Пятліцкі SCJ**, *тэкст;*
*seminarium.scj.pl, фота*

Словы прарока знаходзяць сваё пацверджанне і поўны выраз у жыцці Маці Божай, якая цалкам даверыла яго Усемагутнаму, прымаючы Збаўцу свету пад сваё сэрца. Момант гэты асаблівым чынам пранікае ў харызмат Айцоў Сэрцанаў, якія ўжо традыцыйна ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, складаюць вечныя манаскія абяцанні.

“Праз сваё Ecce ancilla, Яна [Марыя] нас пабуджае да адкрытасці ў веры, з’яўляецца дасканалым прыкладам нашага законнага жыцця” (Канстытуцыя Жыцця Сэрцанаў, нумар 85).

На жаль пануючая эпідэміялагічная сітуацыя ў свеце, то бок розныя грамадскія абставіны, не дазволілі шматлікім гасцям сабрацца разам у парафіяльным касцёле ў Стадніках, каля Кракава (Польшча), каб удзельнічаць у Эўхарыстыі, падчас якой тры семінарысты, з якіх двое з Беларусі, склалі вечныя манаскія абяцанні. Родныя і сябры беларусаў, аднак, змаглі праз прамы эфір далучыцца духоўна.

Сваё ўрачыстае “Так” на Божую Волю выказалі семінарысты — беларусы: Валерый Пупкевіч з парафіі Св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Паставах (Віцебская дыяцэзія) і Уладзіслаў Чуйко з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Баранавічах (Пінская дыяцэзія). Духоўнае прыгатаванне, падчас якога галоўным матывам развažанняў было менавіта манаскае жыццё, семінарысты адбылі пад кіраўніцтвам кс. Юзафа Гаўла SCJ, шматгадовага выхавацеля не аднаго пакалення Сэрцанаў у навіцыяце.

“Кожны дзень праз сваё штодзённае fiat, падобна як Марыя, адкрывайце дзверы Хрысту, Які няспынна стукае ў вашыя сэрцы” — заахвочваў кс. Веслаў Свенх SCJ, правінцыял Польскай Правінцыі Сэрцанаў, на рукі якога маладыя законнікі прысягнулі чысціню, паслухмянасць і ўбоства. “Не будзе лёгка, але будзьце вернымі таму, хто мае моц цяжкасці перамяніць у радасць”...





“Вось я, слуга Пана, няхай мне станецца паводле твайго слова” — адказала Марыя ў сэрцы сваім — дасканалы адказ, які ўзялі сабе за прыклад семінарысты Валерый і Уладзіслаў, прымаючы абавязак і харызмат супольнасці.

“... выконваць усім сваім жыццём, малітвай, працай, цярпеннямі і радасцямі культ Любові і Узнагароджвання, якога так прагне Сэрца Збаўцы” *(Канстытуцыя Жыцця Сэрцанаў, нумар 7).*

**Даведка:** Супольнасць Айцоў Сэрцанаў у Беларусі налічвае 11 святароў, якія выконваюць паслугу ў Гродне, Астрыне, Ляхавічах, Паставах, Шаркаўшчыне і Варапаеве. Актуальна рыхтуюцца да святарства адзін дыякан і тры семінарысты з Беларусі.

# Калядныя падарункі ад Карытас

**Звычай дарыць падарункі на свята Нараджэння Пана нагадвае нам, што Сын Божы - Уцелаўлёнае Слова, з’яўляецца дарам Бога Айца для людзей.**

■ **с. Дар’я Галубкова**

На надыходзячыя Святы Карытас Віцебскай дыяцэзіі перадаў 3500 калядных падарункаў для дзяцей з каталіцкіх парафій; дзяцей з няпоўных, шматдзетных, апякунскіх сем’яў; дзяцей з інваліднасцю; дзяцей, якія знаходзяцца на лячэнні ў Віцебскай абласной клінічнай псіхіятрычнай бальніцы; дзяцей, якія знаходзяцца пад апекай Беларускага рэспубліканскага таварыства “Дзеці ў бядзе”.

Словы падзякі за дапамогу і шчырыя віншаванні са святам Божага Нараджэння і Новым годам кіруем нашым партнёрам: Карытас Лінц (Аўстрыя), Карытас Кёльн (Германія), Карытас Прага (Чэхія), Кіндэрмісіёнверк (Германія).



# Каляндар на студзень

**1 студзеня – урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.**



Дзева Марыя лічыцца самай вялікай хрысціянскай святой. Марыя нарадзіла Езуса пасля беззаганнага зачацця, аднак і сама Яна была таксама плёнам беззаганнага зачацця. Гэты факт каталіцкія тэолагі разглядаюць як лагічную ўмову, якая падрыхтавала Яе да ролі Маці Збаўцы. Тэалагічная дактрына Рыма-Каталіцкага касцёла прызнае той факт, што Дзева Марыя з'яўляецца пасрэдніцай паміж Езусам Хрыстом і ўсім чалавечым родам, бо Яна – Маці Збаўцы, праз Яе прыйшла ласка да людзей.

**2 студзеня – успамін св. Базыля Вялікага і Грыгорыя Назіянзскага, біскупаў і доктараў Касцёла.**



Святыя Базыль (Васіль) Вялікі і Грыгорый Назіянзскі нарадзіліся каля 330 г. у Кападокіі (на тэрыторыі сучаснай Турцыі), і паходзілі з хрысціянскіх сем'яў. Часта ў хрысціянскай літаратуры, разам са сваім сябрам Грыгорыем Нісскім, гэтыя святыя вядомыя як айцы – кападакійцы – гэта зборная назва айцоў Касцёла другой паловы IV стагоддзя, якія завяршылі фармальна-дыялектычную апрацоўку дагмата аб Святой Тройцы. Базыль і Грыгорый былі вельмі адукаванымі людзьмі. Яны пазнаёміліся ў Афінах, дзе разам вучыліся. Згодна з тагачаснымі звычаямі, хрост прынялі ўжо ў сталым узросце, маючы каля 30 гадоў, пасля чаго разам адасобіліся ў пустыні і склалі падрабязны свод правілаў для манахаў. Ідэалам манаскага жыцця паводле Базыля Вялікага была братэрская супольнасць, якая жыве аскетызмам, медытацыяй, а таксама прыслугоўвае Касцёлу праз навучанне веры (адкрыванне і спасціганне Божага Аб'яўлення, абаронай супраць ерасяў), пастырскай і дабрачыннай дзейнасцю. Святы Базыль апрацаваў старажытныя літургічныя тэксты і склаў літургію (чын св. Базыля Вялікага), якая да гэтага часу служыцца ва ўсходніх Цэрквах у вызначаныя дні.

Праз пэўны час абодва сталі святарамі, а пазней — біскупамі: Базыль — у Кесарыі Кападоцкай, а Грыгорый — у Назіянзе. Да таго ж Грыгорый, выбраны духавенствам і народам біскупам Канстанцінопаля, некалькі месяцаў займаў гэтую кафедру, але вырашыў адмовіцца ад яе і вярнуўся ў Назіянз. Грэгорый быў вялікім багасловам, паэтам і гуманістам. Да нашых часоў захавалася 45 казанняў, 245 лістоў, 507 паэтычных твораў Святога Грыгорыя. Святы з'яўляецца заступнікам паэтаў і базыльянаў. На Усходзе Грыгорыя называюць "Боскім", а таксама "Багасловам". Магчыма, нездарма ўспамін Святога Грыгорыя абходзіцца разам у адзін дзень з успамінам Святога Базыля, бо як на зямлі аб'ядноўвала іх сяброўства ў Хрысце, так і на нябёсах падзяляюць супольную хвалу.

**6 студзеня – урачыстасць Аб'яўлення Пана (Тры Каралі).**



Касцёл успамінае ў гэты дзень вешчуноў, што прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцельная традыцыя называе гэтых вешчуноў таксама каралямі (адсюль іншая назва свята – Тры Каралі), а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення язычніцкім народам, прадстаўнікамі якіх яны былі. Колькі дакладна было ў Бэтлееме вешчуноў, біблейская гісторыя не гаворыць, але свету вядомыя ўсяго тры дары-скарбы, і таму хрысціяне здаўна лічаць, што вешчуноў было таксама трое. Пазней традыцыя, абапіраючыся на апакрыфічнае Евангелле IV ст., называе нават іх імёны – Каспар, Мельхіёр і Бальтазар – і падрабязна апісвае іх выгляд. У гэты дзень прынята асвячаць золата, кадзіла, міру і крэйду, якой потым пазначаюцца дзверы жылля, пішуць на іх актуальны год і першыя літары надпісу "Christus mansionem benedicat", што азначае "Хрыстус блаславіляе гэты дом": C+M+B+2019

**10 студзеня – свята Хросту Пана.**

У нядзелю пасля ўрачыстасці Аб'яўлення Пана Касцёл адзначае свята Хросту Пана, якім па традыцыі завяршаецца перыяд Божага Нараджэння. У Евангеллі паводле Мацвея апавядаецца, што Езус прыйшоў з Галілеі над Іарданам да св. Яна, каб



прыняць хрост ад яго. Але Ян спыніў Езуса, прамовіўшы: "Гэта мне трэба хрысціцца ад Цябе". Аднак Езус хацеў выканаць усё тое, што было справядліва. Калі Езус выйшаў з вады, нябёсы адкрыліся і Дух Святы ў абліччы голуба сышоў на Яго, а голас з неба прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (пар. Лк 3, 21–22). Падзея Хросту Езуса стала таксама першым у гісторыі выпадкам аб'яўлення ўсёй Святой Тройцы ў бачных постацях (трынітарная эпіфанія), калі Бог Айцец прамаўляе, Сын Божы існуе ў чалавечай постаці, а Дух Святы з'яўляецца ў абліччы голуба.

**21 студзеня – успамін св. Агнешкі, панны і мучаніцы.**



21 студзеня Каталіцкі Касцёл адзначае дзень св. Агнешкі. Яна з'яўляецца адной з самых вядомых святых рымскага Касцёла, нягледзячы на тое, што да нашых дзён дайшло вельмі мала гістарычных фактаў аб яе жыцці. Яе імя сустракаецца ў Каноне Імшы. Адзіныя дакладныя сведчанні распавядаюць пра яе юны ўзрост, пакутніцтва, пахаванне на могілках на вуліцы Наментана ў Рыме і пра сапраўднасць яе мошчаў.

Агнешка была зусім маладой дзяўчынай, калі ў другой палове III ст. прыняла ў Рыме мучаніцкую смерць за веру, прагнучы захаваць чыстасць. Паводле адной з легенд, калі Агнешцы ледзь споўнілася трынаццаць гадоў, да яе пасватаўся Сіфрыній (сын прэфекта Рыма Семпронія) з-за яе незвычайнай прыгажосці. Каб заваяваць сэрца прыгажуні, юнак абяцаў ёй велізарнае багацце і пашану, але Агнешка адказала яму, што сваё жыццё яна ўжо прысвяціла Хрысту. Схопленую па даносе як хрысціянку, яе спачатку выставілі на ўсеагульны агляд аголенай, а затым прыгаварылі да смерці. Агнешку аддалі вогнішчу, але полымя цудоўным чынам згасла і ёй вырашылі перарэзаць горла, нібы ягняці. Менавіта таму іканаграфія часта прадстаўляе св. Агнешку разам з ягнёнкам, сімвалам чысціні і ахвяры.

Папа Дамас ушанаваў яе песняй, а многія Айцы Касцёла праслаўлялі яе як прыклад хрысціянскіх цнотаў. Паводле старажытнага звычаю, у гэты дзень Папа пасвячае двух ягнятаў (agnus лац. – ягнё), з воўны якіх робіцца палій –знак улады арцыбіскупа.

**25 студзеня – свята навяртання св. Паўла, апостала.**



Навяртанне святога Паўла з'яўляецца адной з найважнейшых падзей у Касцёле. Саўл клапатлівы фарысей і праследавацель Касцёла, па прычыне аб'яўлення яму Хрыста Уваскрослага каля брам Дамаска, стаў не толькі Яго вучнем, але адразу пасля навяртання Павел стаў нястомна абвяшчаць Евангелле паўсюль, куды яго пасылаў Святы Дух.

Паўлу ўдалося пераканаць апосталаў не чыніць перашкодаў для навяртання язычнікаў, і ўсё больш язычнікаў прымала слова Божае, праз хрост далучаючыся да Касцёла. Падчас трох місіянерскіх падарожжаў апостал абвяшчае Евангелле і стварае хрысціянскія супольнасці ў Аравіі, Сірыі, Малой Азіі, Македоніі, Грэцыі, Турцыі і інш. краінах. Павел, прыкладна ў 64-67 гг. прыняў у Рыме мучаніцкую смерць праз адсячэнне галавы.

Яго называюць Апосталам народаў і лічаць першым хрысціянскім тэолагам.

**27 студзеня – успамін бл. Юрыя Матулевіча, біскупа.**



Юры Матулевіч (Юргіс Матулайціс, літ.) нарадзіўся ў Літве 13 красавіка 1871 года. З 1878 па 1881 навучаўся ў Марыямпальскай пачатковай школе, там скончыў і гімназію. У 1889 г. пераехаў да свайго дзядзі ў Кельцы, які ў духоўнай семінарыі выкладаў замежныя мовы. У яе ў 1891 г. паступіў Юры Матулевіч.

У 1893 г. царскія ўлады зачынілі семінарыю, таму малады клерык працягнуў навучанне ў Варшаве. Семінарскія прафесары адразу заўважылі маладога і здольнага клерыка і накіравалі яго на далейшую вучобу ў Пецярбуржскую духоўную каталіцкую акадэмію. Там, у Пецярбурзе, 20 кастрычніка 1898 г. ён атрымаў святарскія пасвячэнні.

Пасля года працы ў Кельцкай дыяцэзіі працягнуў навучанне ў каталіцкім універсітэце ў Фрыбурзе (Швейцарыя). Пасля атрымання там доктарскай ступені выкладаў у Кельцкай семінарыі, а пазней – у Пецярбуржскай Каталіцкай Акадэміі. Пад час працы ў акадэміі Матулевічам авалодала жаданне прысвяціць сваё жыццё манаскаму служэнню. У 1909 г. ён уступіў у Ордэн Марыянаў і пазней стаў як яго адраджэнцам, так і рэфарматарам ды генералам.

У 1918 годзе, падпарадкоўваючыся волі Апостальскай Сталіцы, Матулевіч прымае біскупскі сан і становіцца Віленскім біскупам.

З 1923 па 1924 г.г. у Друі заснаваў новы жаночы манаскі ордэн Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі, аднавіў айцоў Марыянаў.

З 1925 г. біскуп Матулевіч атрымаў сан арцыбіскупа і з'яўляўся папскім нунцыем у Літве. Памёр 27 студзеня 1927 г. 28 ліпеня 1987 г. папа рымскі Ян Павел II улічваючы самаахвярнае служэнне біскупа Матулевіч далучыў яго да ліку блаславёных.

Пасля сябе Матулевіч пакінуў багатую спадчыну – напісаў 28 тамоў кніг на хрысціянскія тэмы. ⇒

⇒

**28 студзеня – успамін св. Тамаша Аквінскага, святара і доктара Касцёла.**



Нарадзіўся каля 1225 г. у Аквіне (Італія). Бацькі аддалі яго на выхаванне да айцоў бенедыктынцаў у Монтэ Касіна, пасля чаго вучыўся ў Неапалі. Ва ўзросце дзевятнаццаці гадоў Тамаш рашуча выразшыў далучыцца да нядаўна заснаванага дамініканскага ордэну. Аднак гэтае жаданьне не спадабалася ягонай сям'і. У спробе прадухіліць умяшаньне маці ў выбар Тамаша дамініканцы паспрабавалі перавесьці Тамаша спачатку ў Рым, а потым у Парыж. Аднак, на шляху Тамаша ў Рым, у адпаведнасьці з інструкцыямі Тэадоры (маці Тамаша), ягоныя браты схапілі яго і прывезьлі ў бацькоўскі замак.Тамаш знаходзіўся ў хатнім палоне каля году ў спробе прадухіліць яго ад прыняцця ў ордэн дамініканаў. Чальцы сям'і будучага філосафа рабілі шмат высілкаў, каб прадухіліць яго адыход у ордэн, аднак хлопец заставаўся рашучым у сваім жаданні.

У 1244 годзе, бачачы, што ўсе спробы дарэмныя, Тэадора вырашыла вызваліць сына з-пад арышту, зпланаваўшы ўцёкі Тамаша праз вакно, каб захаваць годнасць сям'і, не выказваючы сваёй капітуляцыі перад дамініканскім ордэнам. Тамаш вярнуўся ў Нэапаль, а затым у Рым, дзе сустрэўся зь Ёганэсам фон Вільдэсгаўзэнам, магістрам дамініканскага ордэну.

Уступіў у закон дамініканцаў і працягнуў вучобу ў Парыжы і Кёльне. Выкладаў філасофію і тэалогію. Лічыцца найбольшым каталіцкім тэолагам, за што яго назвалі "анёльскім доктарам". Акрамя самага вядомага твору "Сума тэалогіі", пакінуў таксама шмат іншых прац і паэтычных твораў.

Св. Тамаш аддзяляў навуку ад веры, але лічыў, што філасофія мае дапаможную ролю ў адносінах да тэалогіі, бо яна рыхтуе да веры і яе абараняе. Паводле яго вучэння, праўды, якія Бог абвявіў у Пісанні, вышэй за чалавечы розум, але не супярэчаць яму. Тэалогія і філасофія св. Тамаша з'яўляюцца адлюстраваннем хрысціянскага аптымізму: хоць мы пакінулі лад і гармонію, якія панавалі ў свеце, створаным Богам, аднак зло не змагло іх знішчыць, ні змяніць прыроду. Св. Тамаш стаў заснавальнікам найбольш вядомага кірунку ў сярэднявечнай схаластыцы — тамізму. Памёр 7 сакавіка 1274 г. у цыстэрцыянскім абацтве ў Фасанове, з'яўляецца апекуном студэнтаў і тэолагаў. Яго імем названа міждыяцэзіяльная духоўная семінарыя ў Пінску.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***



## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 студзеня – дзень нараджэння** адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**4 студзеня – дзень нараджэння** адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*;

**6 студзеня – дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Вячаслаў Барок** *(Расоны)*;

**8 студзеня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Яўгеній Шымановіч** *(Глыбокае)*;

**12 студзеня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*;

**18 студзеня – гадавіну біскупскай сакры** адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;

**19 студзеня – імяніны** адзначаюць **кс. Генадзій Ляўкоў, кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*;

**21 студзеня – імяніны** адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**27 студзеня – дзень нараджэння** адзначае **кс. пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**29 студзеня – імяніны** адзначае **кс. Валерый Орсік** *(Віцебск)*;

**31 студзеня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

### Пакой для малітвы

У Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова. Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

# Калядная віктарына

**Зноў святкуем свята Божага Нараджэння. Час прыпомніць сабе словы любімых калядак. Прайдзіце тэст, каб праверыць, ці добра вы памятаеце словы калядных спеваў. А потым заспявайце іх. Хрыстос нарадзіўся! Славім Яго!**



**1** Зорка Бэтлеемска над зямлёю ззяе,
Радасную вестку людзям абвяшчае.
Не спі, абудзіся! Хрыстус...



**А.** Аб'явіўся
**Б.** Нарадзіўся
**В.** Не спазніўся

**2** Ціхая ноч, святая ноч!
Усё спіць, сніць даўно.
Толькі Маці Святая ўсцяж...



**А.** На руках трымае Дзіця
**Б.** Спавівае Езуса Хрыста
**В.** Ціха ў яслях люляе Дзіця

**3** Люлі, мой Езусе, мілы Сыночак, спі мая Кветачка, мой Галубочак.
Люлі, мой Езусе, Люленькі – люлі...



**А.** Апрануты ў цёплую кашулю
**Б.** Сагрэты ласкаю Святой Матулі
**В.** Як ягнятка, на ахвяру Ты прыгатаваны

**4** Як прыбеглі пастухі ў Бэтлеем, заспявалі песню, што і мы пяем:
Слава на вышынях, слава на вышынях...



**А.** ...і спакой на зямлі.
**Б.** ...радасць на зямлі.
**В.** ...пастушкі дайшлі.

**5** Ночка ціхая, зарыста, цуд — часіна. Нарадзіла Дзева чыста Бога — Сына. Па загаду Бога - Духа ўцелавіўся, каб нас выбавіць ад грэху...



**А.** Ён прыйшоў.
**Б.** Ён памёр.
**В.** Аб'явіўся.

**6** Добры вечар табе, пане гаспадару.
Радуйся! Ой, радуйся, зямля,
Сын Божы...



**А.** Уцелавіўся
**Б.** Нарадзіўся
**В.** Езус малюсенькі

**7** А ўчора з вячора, а ўчора з вячора...



**А.** Дзева Марыя Хрыста нарадзіла.
**Б.** Засвяціла зора.
**В.** Добрая навіна увесь свет абудзіла.

**8** Хрыстус радзіўся, Бог аб'явіўся, Анёлы славяць, цудна спяваюць, пастушкі іграюць... у Дзіцяці Бога знаюць!



**А.** Каралі шукаюць.
**Б.** Вол з аслом вітаюць.
**В.** Хлопчык засынае.

**9** Не меў Ты месца ў заездзе, у час святы ў Бэтлееме. І нарадзіўся Ты, Езу...



**А.** у беднай стайні на сене.
**Б.** у хлявочку халодным.
**В.** каб збавіць грэшны люд.

**10** У Бэтлеем спяшайма, да стайні, бо там цуд: у яслях сам Сын Божы – Ён збавіць грэшны люд. Анёлы, заспявайце! Зайграйце пастушкі! Паклон Яму аддайце...



**А.** Тры каралі
**Б.** Нясіце дары.
**В.** Валадары зямлі.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 12

# Ксёндз Барок, які адсядзеў 10 сутак: Уражвала, калі мяне прымалі з аўтаматамі і аўчаркамі

**Каталіцкі святар з Расонаў Вячаслаў Барок адбыў 10-суткавы арышт у віцебскім ІЧУ. Ксяндза асудзілі за тое, што паказаў на ютубе выяву дызайнера Уладзіміра Цэслера, дзе былі аб'яднаныя свастыка і беларуская дзяржаўная сімволіка.**

**Зміцер Панкавец**, *nn.by*



Ксёндз Вячаслаў Барок прамаўляе казанне на Імшы за ахвяраў нацызму і камунізму ў Барку каля Глыбокага. *Фота Марыны Сінкевіч*

У гэтым суддзя ўбачыла прапаганду фашызму. "Наша Ніва" распытала айца Вячаслава пра ягоныя ўражанні і адчуванні.

"Да зняволення я быў падрыхтаваны значна раней за суд, калі яшчэ цікавасць да маёй дзейнасці праяўляць пачалі Следчы камітэт і Генеральная пракуратура. Для мяне самога гэта была першая ходка, але я параіўся з дасведчанымі людзьмі, якія дапамаглі мне сабраць "трывожную сумку".

Там былі лекі ад ціску і мігрэні, без якіх я не ўяўляю свайго жыцця, цёплыя штаны, шкарпэткі, шапка. Біблія, падручнік па англійскай мове, сшытак, аловак, а таксама крыху ежы – хлеб, цукеркі", – расказвае айцец Вячаслаў.

Калі згадваць суд, то кс. Барок кажа, што найперш яго ўразіла вялікая колькасць людзей, што прыйшлі падтрымаць яго.

"Гэта былі і супрацоўнікі райвыканкама, і РАУС. Я ім падзякаваў за падтрымку, а пасля падумаў, ці па сваёй волі яны тут.

Зала была перапоўненая, праз гэта пасля перапынку на працэс не пусцілі біскупа Алега Буткевіча. Я быў здзіўлены тым, што ўсе доказы маёй невінаватасці судом увогуле не былі ўлічаныя. Былі сведчанні крытыкаў, што мной быў прадстаўлены твор мастацтва, а не свастыка. На судзе выступаў выкладчык з Наваполацку Уладзімір Лобач, які красамоўна пераконваў, што гэтая выява не можа лічыцца нацысцкай сімволікай. Але нічога гэта не паўплывала.

> **"...Я ў кожным сукамерніку і ахоўніку шукаў Хрыста"**

Разумеецца, гэтыя людзі называюць чорнае белым, а белае – чорным. У тым самым відэа я казаў, што супраць фашызму і камунізму, а мяне судзяць за прапаганду. Калі сукамернікі даведваліся, што я ксёндз, то цікавіліся за што я сяджу. Пасля таго, як чулі адказ, то пачыналіся і маты, і праклёны [ў бок судовай сістэмы]. Я не магу прапаведаваць фашызм ці камунізм, бо гэта супярэчыць вучэнням Касцёла. Яшчэ ў 1937 папа Пій ХІ выдаў энцыкліку супраць камунізму і фашызму, то-бок ксёндз не можа быць прыхільнікам гэтых ідэалогій", – дзеліцца былы вязень.

Вельмі ярка айца Вячаслава прынялі ў віцебскім ІЧУ. Справа ў тым, што ізалятара ў Расонах, дзе служыць Барок, проста няма, а бліжэйшы ў Наваполацку не можа прымаць вязняў праз паламаны душ.

"Гэта, канечне, было прыгожа, вельмі ўражвала, калі мяне прымалі з аўчаркамі. Сабакі брэшуць, а адзін з ахоўнікаў крычыць так моцна, што ён перакрыквае гэты брэх. Былі аўтаматы, мяне ставілі на расцяжку, праводзілі асабісты надгляд.

> **"За час адседкі айцец Барок атрымаў больш за 40 лістоў"**

Так, усё гэта эфектна і ніхто з сукамернікаў не мог пахваліцца такім жа прыёмам, але я не магу сказаць, што нехта выходзіў за межы сваіх паўнамоцтваў. Ніхто мяне не біў, ніхто не здзекаваўся. Я хачу сказаць, што пэўны парадак у ІЧУ існуе. Разумееце, існуюць жа не толькі палітзняволеныя, але ёсць і бандыты, рэцыдывісты. Калі я даведаюся, што такое прадстаўленне зладзілі адмыслова для мяне, тады я скажу, што гэта было нядобра, але пакуль у мяне няма падстаў думаць так".

Што тычыцца ўмоў у ізалятары, то ксёндз на іх не скардзіцца. "Жалезныя нары з матрацам, чыстай бялізнай, неблагія санітарныя ўмовы, халодная вада, унітаз.

Харчаванне дык увогуле някепскае. Скажу шчыра, што супы мне нават падабаліся, кашы як калі, але цярпіма. Хіба што катлеты вельмі цяжкія, да такой ежы трэба прывыкнуць, я асабіста адмовіўся ад іх, на шчасце, хапала перадач. Калі чалавек вядзе бадзяжны лад жыцця, то такое харчаванне можа быць за шчасце. Адзінае чаго мне не хапала – гэта ранішняй кавы. Была нейкая гарбатка, але не дужа смачная".

Пост Вячаслаў Барок цяпер не трымае. Кажа, што Адвэнт – гэта добры час для таго, каб падумаць аб тым, як правільна расстаўляць акцэнты.

"Я ў кожным сукамерніку і ахоўніку шукаў Хрыста. І гэта атрымлівалася. Са мной сядзелі самыя розныя людзі, з розным узроўнем адукацыі, але я не бачыў, каб хтосьці камусьці хацеў рабіць свінства, варта было бачыць, як гэтыя людзі між сабой дзяліліся цыгарэтамі.

У камеры я толькі адзін раз дзесьці на паўгадзіны перасякаўся з палітычнымі, а так я сядзеў з бадзягамі, з чалавекам, які прасядзеў у турме 27 гадоў, людзьмі, якія бачылі турмы ўсёй Еўропы. І нават калі яны казалі, што атэісты, то з вялікай павагай ставіліся да мяне. Я б не сказаў, што яны імкнуліся размаўляць пра Бога, але ім былі цікавыя тэмы маральнага выбару, ніхто з іх не быў пазбаўлены людскасці.

Калі ў мяне падняўся ціск да 190, то менавіта гэты рэцыдывіст падаваў ваду і таблетку, ён патрабаваў, каб мне аказалі дапамогу".

За час адседкі айцец Барок атрымаў больш за 40 лістоў. Пісалі з Гродна, Брэста, Мінска, Віцебска, Піцера, Германіі. "Усім я стараўся адказваць падрабязна, як і яны мне. Атрымаў ліст ад праваслаўнага святара, якога не ведаў раней, з Брэсцкай вобласці. Гэта прыемна, што мяне падтрымлівалі не толькі аднавернікі, лісты дасылалі і каталікі, і праваслаўныя, і пратэстанты". Сярод тых, хто насіў перадачу ў вязніцу, быў біскуп Алег Буткевіч.

"Я шмат размаўляў з Богам у гэтыя дні, хацелася атрымаць адказы на многія пытанні. Я радуюся, што ў мяне хапіла мудрасці не пакрыўдзіцца на Бога, не засумнявацца ў веры. Маўляў, ён мяне не абараніў ад зняволення. Калі б хацеў, то абараніў, але я павінен быў праз гэта прайсці.

З Богам можна спрачацца, нешта даказваць, прасіць, але нельга разняверавацца. Хрысціянства не бывае без крыжа. Я ўспамінаў апостала Паўла, які з турмы пісаў пасланне філіпянам, дзе пісаў, што праз свае кайданы ўмацаваў братоў у веры".

Вядома, айцец Барок плануе і надалей займацца блогерскай дзейнасцю. "Гэта неад'емная частка хрысціянства – прапаведаванне. І калі адмовіцца ад прапаведавання, то можна і не быць далей ксяндзом. У мяне аўдыторыя на ютубе большая, чым усіх жыхароў у Расонах. Я не заклікаю выступаць супраць кагосьці канкрэтнага, толькі супраць Зла і Несправядлівасці".

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу: *363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу: *363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

**Увага!**

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*



# Ці гэта нармальна спавядацца з адных і тых жа грахоў?

**Нас часам ахоплівае нежаданне ад думкі пра споведзь, калі мы ведаем, што зноў прыйдзецца вызнаваць адны і тыя ж грахі. Але такая споведзь мае шмат пераваг.**

Адзін чалавек калісьці скардзіўся святару, што пастаянна паўтарае адны і тыя ж грахі. Той адказаў яму жартам: "Спадзяюся, што вы не збіраецеся раптам рабіць новыя!" Гэта на самай справе ласка, што мы не пагаршаем сваю сітуацыю новымі грэшнымі ўчынкамі. Але якая ў такім выпадку карысць ад споведзі, у якой мы каемся ў адных і тых жа грахах?

### Педагагічная каштоўнасць сакраментальнай споведзі

**Споведзь — гэта не юрыдычны акт, не спосаб разлічыцца з Богам і з самім сабой.** Сакрамант прымірэння — гэта асаблівая магчымасць перажыць міласэрнасць Бога да нас. Гэта — канал ласкі; Божае жыццё перадаецца нам праз духоўныя раны, за якія мы просім прабачэння ў Бога. Гэты сакрамант таксама мае і педагагічную каштоўнасць, як казаў Папа Бэнэдыкт XVI. Ён дазваляе нам увайсці ў бездань Божага сэрца: міласэрны Айцец не стамляецца даравацъ.

"Божая Міласэрнасць – гэта "не пачуццё, не "пабожнасць"! Наадварот, міласэрнасць – гэта сапраўдная сіла, якая можа вылечыць чалавека і свет ад хваробы, якой з'яўляецца грэх, зло маральнае, зло духоўнае", – сказаў калісьці Папа Францішак.

Такое праяўленне любові, якой Бог адорвае кожнага з нас, абуджае ў нашай душы захапленне і радасць, заахвочвае да падзякі! Прызнаемся шчыра: пастаяннае вызнанне адных і тых жа грахоў не заўсёды нас турбуе, не заўсёды ўзнікае думка, што мы паранілі Божае сэрца. Гэты дыскамфорт, выкліканы паўтарэннем грахоў, нярэдка ўзнікае таму, што мы расчароўваемся ў сабе, а наша меркаванне пра саміх сябе – сапсаванае.

Асновай хрысціянскага жыцця з'яўляецца менавіта перажыванне слабасці нашага існавання, усведамленне таго, што без Хрыста мы нічога не можам зрабіць *(Ян 15: 5)*. Святы Максіміліян Кольбэ таксама прызнаваў пэўную карысць ад вызнання адных і тых жа грахоў. Аднойчы ён прызнаўся: "Калі ўсе сродкі былі вычарпаныя, я зразумеў, што згубіўся, і мае выхаваўцы ўбачылі, што я ні на што не здольны – тады Беззаганная ўзяла ў свае рукі гэты цалкам бескарысны інструмент".

Святы Францішак Сальскі тлумачыў гэта так: "Гаворка ідзе не толькі пра тое, што толькі душа, якая ведае сваю нікчэмнасць, здольная цалкам давяраць Богу, а пра тое, што ні адна душа не можа цалкам даверыцца Богу, калі не ўсведамляе сваёй нікчэмнасці, бо гэта веданне і прызнанне сваёй нікчэмнасці ставяць нас перад Богам".

Ад споведзі з тых жа падзенняў мы нараджаемся з падвойным усведамленнем: бясконцай дабрыні Бога і слабасці нашай чалавечай прыроды. Святой Маці Тэрэзе, якая скардзілася на сваю нязграбнасць, Езус адказаў: "Я ведаю, што ты самае слабое, нязграбнае і лянівае стварэнне ў свеце; але менавіта таму, што ты такая, я хачу выкарыстаць цябе дзеля маёй славы! Не адмовіш мне?"

Такім чынам, Божая педагогіка заключаецца не ў тым, каб перш за ўсё вызваліць нас ад граху для таго, каб мы жылі ў адпаведнасці з маральнымі нормамі. Яе мэта – прывесці нас да таго, каб мы, глыбока перажываючы прорву нашай нікчэмнасці, адчувалі сябе пакліканымі кінуцца ў бездань Божай Міласэрнасці. Тады і толькі тады мы атрымаем ад Бога дастатковую ласку, каб пазбягаць граху, і гэта зможа прынесці плён.

*pl.aleteia.org*

# Сглаз и порча. Трудные вопросы

**Может ли стать жертвой порчи и сглаза человек, который живёт в состоянии благодати, молится, причащается, исповедуется? Могут ли болезнь или другие несчастья быть результатом дьявольского воздействия?**

■ **Ольга Сакун**, *Vatican News*

Несомненно, некоторые болезни не имеют естественного происхождения, т.е. они не вызваны причинами, которые кроются в нашей человеческой природе. По-Божьему попущению демоны осуществляют негативное воздействие на людей, побуждая их совершать зло, а иногда и вторгаясь в их тело тем или иным способом.

"Облекитесь во всеоружие Божие" – читаем в Послании святого Павла к Ефесянам *(6, 10-12)* – "чтобы вам можно было стать против козней диавольских, потому что наша брань не против крови и плоти, но против начальств, против властей, против мироправителей, тьмы века сего, против духов злобы поднебесных". Этим Божьим всеоружием, о котором говорит святой апостол Павел для христианина является освящающая благодать и добродетель. Именно это даёт ему силу, чтобы противостоять воздействию дьявола и духов его, а также от них освобождаться.

О том же пишет святой апостол Пётр *(5, 8-9)*: "Трезвитесь, бодрствуйте, потому что противник ваш дьявол ходит как рыкающий лев, ища, кого поглотить. Противостойте ему твердою верою, зная, что такие же страдания случаются и с братьями вашими в мире".

Что касается зол, которые могут поразить наше тело. В подтверждении того, что они могут иметь дьявольское происхождение, можно сослаться на Евангелие от Матфея. "И прошел о Нём слух по всей Сирии; и приводили к Нему всех немощных, одержимых различными болезнями и припадками, и бесноватых, и лунатиков, и расслабленных, и Он исцелял их" *(4, 24)* и ещё "И призвав двенадцать учеников Своих, Он дал им власть над нечистыми духами, чтобы изгонять их и врачевать всякую болезнь и всякую немощь" *(10, 1)*.

В Евангелии от Луки также говорится о некоторых женщинах, которых Господь исцелил от злых духов и болезней, в том числе Магдалине, из которой вышли семь бесов.

В ожидании судного дня бесы, т.е. демоны или духи дьявола, обладают определённой свободой в своих делах на земле. Это подтверждается, например, фразой из Апокалипсиса, где описана некая пришедшая на землю саранча "и дано ей не убивать их, а только мучить пять месяцев; и мучение от неё подобно мучению от скорпиона, когда ужалит человека" *(Откр 9, 5)*.



Евангельские экзорцизмы, т.е. изгнания бесов, часто представлены в виде физических исцелений своей силой и властью над бесами. Иисус разрушает царство сатаны и утверждает мессианское владычество, основным обетованием которого является Святой Дух. Бесам хорошо известно, когда человек его отвергает. Власть изгонять духов Иисус передаёт своим ученикам вместе с властью исцелять чудесным образом болезни. Если человек живёт в состоянии Божьей благодати и соблюдает заповеди, ему нечего страшиться бесов. Напротив, они его боятся и бегут от него, как заверяет нас Святой Дух устами апостола Иакова *(4, 7)*: "Итак покоритесь Богу; противостаньте диаволу, и убежит от вас". В этом смысле опасаться нужно не тем, на кого наводят порчу и сглаз, а как раз тем, кто властью дьявола пытается всеми способами навредить Божьим рабам. Именно они становятся жертвами злых духов и попадают в их власть рано или поздно в этой или будущей жизни. И мы находим тому подтверждение в Библии: "Падут подле тебя тысяча и десять тысяч одесную тебя; но к тебе не приблизится: только смотреть будешь очами твоими и видеть возмездие нечестивым" *(Пс 90,7)*.

# Адказы на частыя пытанні ад рэдакцыі Vatican News

**– Як атрымаць папскае благаслаўленне на пергаменце?**

– Інфармацыя аб магчымасці атрымання папскага благаслаўлення на пергаменце знаходзіцца на інтэрнэт-старонцы Апостальскай элемазінарыі.

**– Як прыняць удзел у агульнай аўдыенцыі?**

– Білеты для ўдзелу у агульных аўдыенцыях распаўсюджваюцца бясплатна. Інфармацыя аб магчымасці іх атрымання знаходзіцца на інтэрнэт-старонцы Прэфектуры.

**– На які адрас можна дасылаць ліст Святому Айцу?**

– Лісты Святому Айцу можна дасылаць на адрас:

***Sua Santità Papa Francesco. Casa Santa Marta. 00120 Città del Vaticano***

**– Як можна набыць ватыканскія манеты і паштовыя маркі?**

– Інфармацыя аб ватыканскіх манетах і паштовых марках знаходзіцца на сайце Губернатарату Дзяржавы Ватыкан, у раздзеле Філатэлістычна-нумізматычнага аддзела.

**– Як можна набыць фотаздымак з падзеі з удзелам Святога Айца?**

– Набыць ці замовіць фотаздымкі з падзей з удзелам Святога Айца можна на сайце Ватыканскай фотаслужбы.

**– Ці існуюць вэб-камеры ў Ватыкане?**

– Так. У рэжыме рэальнага часу паглядзець на самыя значныя месцы на тэрыторыі Ватыкана можна на сайце.

Адказы на іншыя пытанні, а таксама больш падрабязную інфармацыю можна знайсці на беларускай інтэрнэт старонцы навін з Ватыкану ***https://www.vaticannews.va/be.html***





## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Віктар Місевіч**! Віншуем Вас са святам Божага Нараджэння і надыходзячым Новым годам. Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Найсвяцейшая Маці нястомна апякуецца Вамі. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і багатага плёну ад святарскага служэння, зычлівых людзей побач. Няхай добрая ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару, а шчодрае сэрца хай будзе заўсёды гатовае дзяліцца радасцю. Падарункам для Вас няхай будуць нашы шчырыя малітвы.*

***З павагай, сем'і Місевіч і Вяршэль***

## Шаноўны ксёндз Мікалай Ліпскі!



*Віншуем Вас з імянінамі (6 снежня), са святам Божага Нараджэння і з Новым годам! Сардэчна вітаем Вас і жадаем далейшага паспяховага служэння на хвалу Бога. Мы просім Усемагутнага, каб узнагародзіў Вас моцным здароўем, духоўнай мудрасцю і сілай, нязгасным запалам у выкананні святарскай працы. Божага благаславення Вам і Вашым родным! Са святамі!*

***Вернікі касцёла з Новалукомля***

## Хвала Хрысту!

*11 снежня **ксёндз Раман Мурзіч** адзначае Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Раман!*

*Прыміце ад нас, калі ласка, букет самых шчырых пажаданняў: здароўя, міру, дабра, шчаслівых і радасных дзён, поспехаў на шляху Божага паклікання, добразычлівых людзей і ажыццяўлення творчых планаў. Няхай Дух Святы асвячае кожны Ваш дзень, а Маці Божая атуляе мацярынскай любоўю!*

*Дзякуем за Вашу шчырую ўсмешку, за добрыя словы, за падтрымку, за малітву ў нашых інтэнцыях і данясенне да нашых сэрцаў Божага слова.*

*Няхай Пан Бог заўсёды апякуецца Вашым жыццём, а Вашых родных адорыць здароўем і патрэбнымі ласкамі!*

***З вялікай павагай, малітвай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Імя Марыі ў Параф'янаве***

## Хвала Хрысту!



*6 снежня наш **ксёндз-пробашч Мікалай Ціхановіч** адзначыў імяніны. З гэтай нагоды шчыра яго віншуем!*

*Паважаны ксёндз Мікалай! Няхай Пан Бог адорвае Вас любоўю і благаслаўленнем, Найсвяцейшая Панна Марыя і святы апякун дапамагаюць у пастырскай паслузе, няхай Вашае служэнне прыносіць багаты плён!*

*Сардэчна дзякуем Вам за айцоўскі клопат пра ўсіх парафіян, за мудрыя казанні, за адданую працу на карысць парафіі і ўсяго Касцёла.*

***З удзячнасцю і малітвай, вернікі касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!



*З вялікай пашанай і ўдзячнасцю віншуем нашага **ксяндза Альфрэда Пяхоту** з імянінамі (14 снежня).*

*Пан Езус паклікаў Вас за сабою ў дарогу, каб данесці да нашых сэрцаў слоў Божых праўду. Вы неслі гэты наказ у нашай парафіі на працягу дваццаці гадоў.*

*Няхай жа праменіцца Божым святлом Ваш далейшы святарскі шлях, каб яшчэ доўга-доўга Вы падавалі людзям хлеб Божага Слова і Хлеб Эўхарыстычны.*

*Няхай добры Збаўца адорыць Вас ласкаю доўгага жыцця, моцным здароўем, нязломнай верай і адвагай у пераадольванні цяжкасцей жыцця! Нястомнай Вам апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка. А мы будзем падтрымліваць Вас сваімі малітвамі.*

***З віншаваннем і ўдзячнасцю вернікі касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Шаноўны ксёндз Вячаслаў Барок!

*З нагоды Дня народзінаў прыміце шчырыя віншаванні! Ганарымся Вамі! Жадаем Вам шчодрых дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, творчага натхнення, мужнасці, вытрываласці ў абвяшчэнні Божага слова! Няхай Езус Хрыстус вядзе Вас дарогай Праўды!*

***З павагай, рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншую ўвесь **калектыў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка"** са святам Божага Нараджэння! Поспехаў вам у вашай творчай працы, добрага здароўя і ўсіх ласкаў Пана!*

***Аліцыя Трафімовіч, г. Паставы***

## Шаноўная рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"!

*Шчыра віншуем увесь калектыў са святам Божага Нараджэння і Новым годам! Жадаем моцнага здароўя, радаснага жыцця, прасякнутага духоўнай творчасцю! Просім Усемагутнага Бога аб патрэбных ласках для вас.*

***З павагай, вернікі касцёла з Новалукомля***

# Езу Хрыстэ, нарадзіся...

Езу Хрыстэ, нарадзіся ў кожным доме  
І святлом Сваім усіх нас асвяці.  
Мы з надзеяю Цябе чакаць гатовы,  
За Табой гатовы крочыць па жыцці.

Езу Хрыстэ, нарадзіся ў кожным сэрцы  
І любоў Сваю для кожнага спашлі,  
Каб маглі мы спадзявацца, жыць і верыць,  
Каб дарогу да Цябе мы ўсе знайшлі.

Езу Хрыстэ, нарадзіся ў Беларусі  
І краіну нашу моцна абдымі.  
Тваю волю мы прымаць заўсёды мусім,  
Прабачэнні і малітвы Ты прымі.

Езу Хрыстэ, нарадзіся, мы чакаем,  
Хочам міру і спакою. Памажы!  
Хочам шчасця і свабоды мы жадаем,  
За якую паміраў Ты на крыжы.

Езу Хрыстэ, зноў для нас Ты нарадзіся,  
Разарві і знішчы ўсе аковы зла.  
З зоркай Батлеемскаю з'явіся  
І спашлі для нас прамень святла.

***Даната Варабей*** *г. Мядзел*

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – А; 5 – В; 6 – Б; 7 – Б; 8 – Б; 9 – А; 10 – В



# "Езу, давяраю Табе!" – сведчанне веры

У мінулым годзе падчас калядавання я суправаджала ксяндза Валерыя ў вёску Ліпнікі. Ксёндз хацеў адвезці мяне дамоў у Паставы, але яму яшчэ трэба было ехаць у іншыя вёскі, таму я падзякавала і адмовілася, вырашыла прайсці (менш 5 км) пешшу. У той дзень было вельмі слізка. Я паслізнулася, упала і пашкодзіла правую руку – выбіла плячо. Боль быў невыносны, але, дзякуючы Пану Богу і нашым медыкам, а таксама добрым людзям, якія маліліся за мяне, праз дзень з рукой у гіпсе я была на святой Імшы, хоць і не магла пераражагнацца. Але на ўсё воля Божая – праз месяц я ўжо змагла паднясць далонь да ілба, каб зрабіць знак крыжа. Многія, і нават медыкі, не маглі паверыць у такое хуткае выздараўленне. Але Пан Бог шкадуе і прабачае нас грэшных, падтрымлівае ў цяжкую хвіліну, бо Ён – Міласэрны. Малюся да Яго ў першую чаргу аб прабачэнні маёй недасканалай веры, а потым ужо аб фізічным здароўі і супакоі.

Вось і цяпер, праляжаўшыся 10 дзён у шпіталі, я кожную хвіліну адчувала Яго прысутнасць, малілася з надзеяй аб аздараўленні не толькі для сябе, але для родных, дзяцей, унукаў, усіх добрых людзей. Бог дае нам выпрабаванні, каб узмацніць нас духоўна і фізічна, дае магчымасць задумацца над сваім жыццём на гэтым свеце і над тым, што нас чакае ў вечнасці.

***Аліцыя Трафімовіч, г. Паставы***

# Кс. Ежы Папялушка – святар-мучанік

**Наша Айчына зараз перажывае не самыя спакойныя часы. Страх і беззаконне закранулі многіх грамадзян, у тым ліку і вернікаў. Але гісторыя памятае падобныя трагедыі.**

■ **Арцём Булатоўскі**, *парафія Хрыста Збаўцы, Віцебск*

Адна з іх прайшлася па нашых суседзях – паляках. І таксама сярод пацярпелых у Польшчы было вельмі шмат вернікаў, католікаў. І якраз зямны шлях блаславёнага айца Ежы Папялушкі можа нам дапамагчы зразумець, як трываць і дзейнічаць у няпростых момантах нашага жыцця.

Пасля заканчэння ІІ Сусветнай вайны Польшча апынулася ў камуністычным лагеры. Народ, маючы ўспаміны апошніх войнаў, кепска ставіўся да ўлады атэістаў. Тым больш, што вялікая доля грамадства лічыла сябе хрысціянамі. Да гэтых абставінаў далучыліся праблемы ў эканоміцы і бязбожная прапаганда. Усе гэтыя чыннікі прыводзілі да пратэстаў ужо на пачатку 50-ых гадоў. Менавіта ў такіх складаных умовах прайшло дзяцінства Ежы Папялушкі, які нарадзіўся 14 верасня 1947 г. у Акопах на Падляшшы ля беларускай мяжы. Сям'я была веруючай, шматдзетнай, патрыятычнай. З дзяцінства Ежы быў у касцёле, пазней стаў міністрантам.



Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1965 г. паступіў у варшаўскую Вышэйшую духоўную семінарыю. Падчас навучання быў накіраваны на абавязковую ваенную службу, якая праходзіла ў 1966–1968 гг. у спецыяльным вайсковым фармаванні для семінарыстаў з павышаным узроўнем бяспекі. Па звестках семінарыст Папялушка арганізоўваў супраціў атэістычнаму рэгламенту службы, падтрымліваў таварышаў. Шматразова цярпеў здзекі, пакаранні. Вайсковая служба падкасіла яго здароўе.

28 мая 1972 г. прымас кардынал Стэфан Вышынскі высвяціў на святара Альфонса Папялушку пад імем Ежы Аляксандр.

З 1980 г. айцец Ежы актыўна падтрымліваў працоўных і "Салідарнасць". Падчас вядомай забастоўкі рабочых святар быў скіраваны цэлебраваць Імшу ў Гуце-Варшава. Дадзеная падзея выклікала вялікі рэзананс у грамадстве. Пасля ўвядзення ваеннага становішча смелы святар займаўся дабрачыннымі справамі і проста падтрымліваў людзей. Таксама айцец Папялушка нярэдка прысутнічаў падчас судзілішчаў над арыштаванымі за супраціў ваеннаму становішчу. З 1982 г. арганізаваў Службы за Радзіму. У 1983 г. айцец Папялушка арганізоўвае першае паломніцтва працоўных да дарагога ўсім палякам санктуарыя ў Чэнстахове. Айцец Ежы нярэдка цярпеў праследы і пагрозы нават да спробы пазбаўлення волі на 10 год.

Каталіцкі ксёндз у сваёй дзейнасці найперш кіраваўся вучэннем Касцёла, заснаванага на словах Пісання: "Не будзь пераможаны злом, але перамагай зло дабром". (Рым 12, 21).



За шматлікія гады барацьбы за хрысціянскую Польшчу айцец Ежы Папялушка атрымаў вялізны аўтарытэт, падтрымку і папулярнасць у краіне, дзякуючы дапамозе праследаваным працоўным і актывістам. Бязбожная камуністычная ўлада разглядала дзейнасць святара як адкрытую крытыку і апазіцыю дзяржаўнай сістэме.

19 кастрычніка 1984 г. ксёндз Ежы праводзіў набажэнства ў Быдгашчы. Прыблізна а 22.00 на зваротным шляху да Варшавы айцец Ежы быў выкрадзены супрацоўнікамі Міністэрства ўнутраных спраў. Закатаванага, звязанага, і мабыць яшчэ жывога ксяндза запіхнулі ў мяшок з камянямі і кінулі з маста ў Віслу.

Пахаванне айца Ежы Папялушкі адбылося 3 лістапада 1984 г. у касцёле Св. Станіслава Косткі ў Варшаве. Гэтая сумная падзея сабрала ад 600 000 да мільёна чалавек.

Ксёндз Ежы Папялушка быў абвешчаны блаславёным Каталіцкага Касцёла 6 чэрвеня 2010 г. у Варшаве. Святую Імшу беатыфікацыі ўзначаліў арцыбіскуп Анджэла Амата, прэфект Кангрэгацыі па справах святых, які прачытаў акт беатыфікацыі ад імя Папы Бэнэдыкта XVI. Таксама ў Службе ўдзельнічалі каля 100 кардыналаў, арцыбіскупаў і біскупаў, а таксама 1,6 тысячы святароў.

Мабыць найважнейшы плён у жыцці айца Ежы прынесла шырокае абвяшчэнне слоў Евангелля, якога так баялася таталітарная ўлада. На прыміцыйным абразку будучы святар напісаў: "Мяне пасылае Бог, каб абвяшчаў Евангелле і лячыў раны збалелых сэрцаў".

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**3 студзеня 2021г.**
**II Нядзеля пасля Нараджэння Пана**
***Ян 1, 1-18***

Шматлікія мысляры і філосафы на працягу гісторыі задумваліся пра Бога і спрабавалі акрэсліць Яго, зразумець і знайсці. І па сённяшні дзень існуе безліч розных вучэнняў і тэорый на гэтую тэму. У сённяшнім урыўку з Евангелля евангеліст Ян перадае нам канкрэтную праўду пра Бога. Ён – Слова, якое пануе ў рэчаіснасці зямной і нябеснай. Больш таго, Слова – гэта і ёсць Стварыцель. Дзякуючы Яму ўсё мае магчымасць існаваць. Менавіта з Ім прыходзіць дар і моц. Прыгожае паэтычнае тлумачэнне гэтага знаходзім у прарока Ісаі.

Падобна як дождж і снег падае з неба і туды не вяртаецца, але поіць зямлю і робіць яе ўрадлівай, і яна родзіць, і прыносіць плён сейбіту і хлеб для таго, хто есць, так і слова Маё, якое выходзіць з вуснаў Маіх, не вернецца да Мяне без плёну, пакуль не споўніць тое, што Я хацеў, і з поспехам не дасягне таго, дзеля чаго Я паслаў яго. (Іс 55,10-11).

Езус, другая асоба Святой Тройцы, Божы Сын, прымае цела чалавека. Ён прыходзіць да сваіх. Ён нас называе сваімі блізкімі. Ці прымем мы Яго? Сэрца чалавека – гэта, бадай што, адзінае месца, дзе Бог выглядае безабаронна і разлічвае на чалавечую згоду і спагаду. Уцелаўленне Божага Сына – гэта таямніца, якую не спасцігнуць за вечнасць. У Ім сышлося вечнае і часовае, моц і слабасць, пастаяннае і зменлівае. І ўсё гэта толькі для адной мэты: каб абагавіўся чалавек.

**10 студзеня 2021г.**
**Свята Хросту Пана**
***Мк 1, 7-11***

У Свята Хросту Пана мы разважаем пачатак місійнай дзейнасці Хрыста. Наш Збавіцель захацеў пакінуць свой бацькоўскі дом у Назарэце і пайсці на поўдзень, туды, дзе сэрцы многіх людзей абуджаў Ян Хрысціцель. Навошта было Езусу прымаць хрост з рук прарока? Ці ж Ён быў грэшнікам і патрабаваў навяртання? Канешне, не. Ян Хрысціцель так і кажа: Ідзе за мною мацнейшы за мяне, якому я не варты, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на яговых сандалях. Моцным і Усемагутным у яўрэйскай традыцыі называлі толькі Бога. А Бог святы і яму няма патрэбы навяртацца. Езус прымае хрост з рук Яна Хрысціцеля, каб надаць вадзе моц ачышчэння. Гэта мы, звычайныя грэшнікі, патрабуем навяртання і пераменаў. Таму ў Свята Хросту Пана хочам успомніць свой уласны сакрамантальны Хрост і падзякаваць Богу за збаўленне. Праз Хрост мы сталіся дзецьмі Божымі, праз Хрост перад намі адчыненыя брамы раю, праз Хрост мы становімся ўдзельнікамі такой цудоўнай і вялікай сям'і – Каталіцкага Касцёла, праз Хрост мы пазначаныя незнішчальнай пячаткай самога Бога, Які гаворыць: Ты мой, ты мая. Так як у момант хросту Езуса пачуўся голас з вышыні, так і ў нашым выпадку Бог называе нас узлюбленымі. Дар святога Хросту азначае для нас і заданне: мы не павінны змарнаваць Божых ласкаў. Нам трэба развіваць у сабе духоўнае жыццё, прымаючы сакраманты, молячыся і даючы сведчанне аб Хрысце.

**17 студзеня 2021г.**
**II Звычайная Нядзеля**
***Ян 1, 35-42***

"Чаго шукаеце?", - гэтае пытанне, якое задаў двум вучням Езус, рэхам адбіваецца і ў сэрцах сучасных пакаленняў людзей. Чаго ты шукаеш, чалавек? Чаго прагнеш? Дзеля чаго жывеш? Многія бачаць сэнс свайго існавання ў зусім зямных справах: у грошах, ва ўладзе, у дабрабыце. Але ці могуць матэрыяльныя даброты забяспечыць тваё шчасце назаўсёды, навечна? Вечна шчаслівым можа зрабіць толькі Той, хто сам існуе па-за часам. Каб знайсці адказы на турбуючыя нас пытанні, нельга заставацца на месцы. Трэба ўстаць і пайсці. Так, як гэта зрабілі вучні з Евангелля. Інтуіцыйна яны адчувалі, што гэты Чалавек зможа даць ім адказы на ўсе пытанні. Таму яны адразу і пытаюцца: Настаўнік, дзе ты жывеш? І чуюць у адказ: Ідзіце і ўбачыце. Бог хоча, каб з Ім размаўлялі, каб з Ім вялі дыялог. Ён хоча быць для нас цікавым, быць аб'ектам пазнавання. Многія думаюць, што пазнаваць штосьці можна толькі навукова: праводзячы доследы, вывучаючы гіпотэзы і тэорыі. Аднак, духоўны чалавек умее спазнаваць і сэрцам. Вечнае жыццё ў Нябесным Валадарстве палягае менавіта на спазнаванні Бога і Яго праслаўленні. Апостал Андрэй перадае радасную вестку свайму брату Пятру: Мы знайшлі Месію. Андрэй прыводзіць Пятра да Хрыста. Як жа важна ў сучасным свеце быць правадніком Божай ласкі! Як важна іншых прыводзіць да Бога! У гэтым заключаецца нашая місія апостальства.

**24 студзеня 2021г.**
**III Звычайная Нядзеля**
***Мк 1, 14-20***

Галілея – гэта паўночны рэгіён Абяцанай Зямлі, якую засялілі яўрэі згодна з Божым запаветам. Адбылося гэта за паўтары тысячы гадоў да нараджэння Хрыста. Аднак у 722 годзе да нараджэння Хрыста асірыйцы напалі на Ізраэль і дэпартавалі дзесяць паўночных яўрэйскіх плямёнаў. Запусцелыя землі засялілі прадстаўнікамі розных этнічных груп. Менавіта па гэтай прычыне гэты рэгіён атрымаў назву "Галілея язычнікаў" і лічыўся нячыстым месцам. Аднак, прарок Ісая прадказаў, што менавіта ў Галілеі Бог праявіць сябе як святло для таго, каб выбавіць людзей з цемры.

Ранейшы час зняцэніў зямлю Забулонавую і зямлю Нэфталімавую; а далейшы праславіць дарогу прымарскую, зямлю заярданскую, Галілею язычніцкую. Народ, які хадзіў у цемры, убачыў святло вялікае; над жыхарамі краіны смяротнага ценю зазззяла святло. (Іс 8,23-9,1)

У Езусе Хрысце спаўняюцца гэтыя словы. Назарэт знаходзіцца менавіта ў Галілеі. Гэтым самым Бог як бы хоча паказаць, што Сын Божы прыйшоў да ўсіх людзей. Ягонай марай і ідэяй з'яўляецца тое, каб Божая вестка дайшла да кожнай краіны і кожнай тэрыторыі. Каб жа рэалізаваць гэты Божы намер, неабходная дапамога чалавека. Езус бярэ сабе ў вучні рыбакоў, каб пазней яны сталіся рыбакамі чалавечых душаў. Можа, і цябе сёння кліча Бог да нейкай адказнай місіі? Дазволім жа Духу Святому дзейнічаць у нашым сэрцы.



**31 студзеня 2021г.**
**IV Звычайная Нядзеля**
***Мк 1, 21-28***

Езус навучае, як той, хто мае ўладу. Гэта заўважаюць слухачы і здзіўляюцца. Як пацвярджэнне на гэта, адбываецца першы экзарцызм Езуса, калі Ён выганяе злога духа. Бог прыходзіць у гэты свет, каб вызваліць чалавека ад улады д'ябла. Ёсць у нашым жыцці такія сітуацыі, калі не дастаткова нашых слабых чалавечых сілаў, каб нешта змяніць і палепшыць. У такіх выпадках нам трэба прасіць магутнага Божага заступніцтва. Тут важна разумець адну ісціну. Бог не змагаецца з д'яблам, як роўны з роўным. Д'ябал – гэта ўсяго толькі паўшы анёл. Ён – стварэнне. А Бог - Стварыцель. Божая ўлада бязмежная і святая. Разам з тым мы не павінны ўспрымаць злога духа, як нейкага казачнага персанажа, героя казак і легендаў. Злы дух – гэта рэальная пагроза, ад якой нам трэба мець абарону. Самай першай такой абаронай з'яўляецца сакрамант Хросту, падчас удзялення якога, дарэчы, ужываецца звычайны экзарцызм – малітва аб выгнанні злога духа ад чалавека, які мае быць ахрышчаны. Іншы від экзарцызмаў – урачыстыя - ужываюцца вельмі рэдка і могуць праводзіцца толькі біскупамі, альбо спецыяльна дэлегаванымі для гэтага святарамі-экзарцыстамі. Няхай Божае слова, якое слухаем, і сакраманты, якія прымаем, дапамагаюць нам трываць у Божай прысутнасці і Божай ласцы.

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Віктар Місевіч***
*Віцебск*



## Германія: Вігілія Божага Нараджэння будзе адпраўлена... на трампліне

**Напярэдадні Калядаў у нямецкім Вілінгене на трампліне, у 16 гадзін па мясцовым часе, адбудзецца спецыяльнае экуменічнае набажэнства.**

Ідэя належыць а. Крысціяну Ролінгу, які з'яўляецца членам мясцовага гарналыжнага клуба. "У гэтым годзе пандэмія вызначыла ўсё наша жыццё. Мы былі вымушаны адмяніць або перанесці на нявызначаны тэрмін шмат важных для нас сустрэч", — кажа ён.

Па словах Крысціяна Ролінга, гарналыжны трамплін і трыбуны каля яго — гэта ідэальнае месца для арганізацыі вялікай малітоўнай сустрэчы. Суарганізатарам сустрэчы з'яўляецца каталіцкая парафія.

У мэтах эпідэміялагічнай бяспекі на гэту сустрэчу неабходна будзе зарэгістравацца.

Арганізатары гарантуюць захаванне санітарнай дыстанцыі паміж тымі, хто будзе ўдзельнічаць у малітве.

*stacja7.pl*



Зноў разам з ПАЗНАВАЙКАЙ святкуем Свята Божага Нараджэння!

**Заданне № 1.** Ці памятаеш ты, дзе і ў якім месцы нарадзіўся Езус Хрыстус? Выберы правільны адказ на малюнках. Правер сябе, прачытаўшы ўрывак з Евангелля ад Лукі 2, 1-7

**Заданне № 4.** Памятаеш, што падаравалі мудрацы маленькаму Езусу?

**Заданне № 2.** У святую ноч Нараджэння Збаўцы на полі пастушкі вартавалі свой статак. Злучы па парадку кропкі на малюнку, і ўбачыш, што так здзівіла ў тую ноч пастушкоў.

**Заданне № 5.** Калі выпішаш па парадку ўсе літары з елачкі, даведаешся, што трэба адказваць на заклік «Хрыстос нарадзіўся!»

АДКАЗ: __________ __________



**Заданне № 3.** Мудрацы з усходу спяшаліся пакланіцца свайму маленькаму Цару. Прыпомніш сабе гэтую падзею, калі прачытаеш Евангелле ад Мацвея 2, 1-12. Паглядзі, як гэта адбывалася і знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.

**№ 6.** Напішы святочныя пажаданні! Мы пакінулі месца для тваіх асабістых пажаданняў родным, сябрам і знаёмым.

Мастачка: **Вольга Будкіна;** ідэя: **Вікторыя Колзун**

# У Касцёле абвешчаны Год святога Юзафа і ўстаноўлены адпусты

**8 снежня 2020 г. быў апублікаваны Апостальскі ліст Папы Patris corde – Бацькоўскім сэрцам, прысвечаны 150-годдзю прызнання св. Юзафа апекуном Каталіцкага Касцёла.**

Ушаноўваючы рашэнне бл. Пія IX, агучане ў дэкрэце Quemadmodum Deus з 1870 г., Папа Францішак абвясціў у Касцёле адмысловы Год св. Юзафа. Ён будзе працягвацца з 8 снежня 2020 года па 8 снежня 2021 года, а Апостальская Пэнітэнцыярыя абнародавала дэкрэт аб адпустах, прымеркаваных да Года св. Юзафа.

Пандэмія COVID-19 прымусіла нас зразумець важнасць звычайных людзей, тых, хто далёка не ў цэнтры ўвагі, кожны дзень праяўляе цярпенне і ўсяляе надзею, сеючы сумесную адказнасць, — напісаў у сваім Лісце Папа Францішак. Яны бяруць прыклад з св. Юзафа, "чалавека, які застаецца незаўважаным, чалавека штодзённай прысутнасці, стрыманай і схаванай", "беспрэцэдэнтнага героя ў гісторыі збаўлення".

Мэта новага Апостальскага ліста, прызнаўся Пантыфік, "выклікаць большую любоў да гэтага вялікага святога, заахвоціць да прашэння аб яго заступніцтве і пераймання яго цнотаў і прыхільнасці".

У дакуменце Апостальскай Пэнітэнцыярыі прыгадваецца, што для атрымання поўнага адпусту трэба не мець прывязанасці да якога-кольвечы граху, выканаць звычайныя ўмовы (сакрамэнтальная споведзь, эўхарыстычная Камунія і малітва ў інтэнцыях Святога Айца), а таксама прыняць удзел у падзеях Года св. Юзафа, згодна з устаноўленым Апостальскай Пэнітэнцыярыяй чынам.

Св. Юзаф, як "сапраўдны чалавек веры", заклікае да сыноўскіх адносін з Нябесным Айцом, абнаўлення вернасці ў малітве і паслухмянасці Божай волі. Таму "поўны адпуст удзяляецца тым, хто прынамсі на працягу 30 хвілін паразважае над малітвай "Ойча наш", або прыме ўдзел у прынамсі аднадзённых духоўных рэкалекцыях, якія прадугледжваюць разважанне над асобай св. Юзафа".

Св. Юзаф узорным чынам злучаў у сваім жыцці справядлівасць і міласэрнасць. "Таму тыя, хто па прыкладзе св. Юзафа споўняць учынкі міласэрнасці да цела і душы бліжняга, таксама змогуць атрымаць дар поўнага адпусту", — гаворыцца ў дакуменце.

Нагадваецца, што св. Юзаф з'яўляецца абаронцам Святой Сям'і з Назарэта, мужам Найсвяцейшай Панны Марыі і законным бацькам Езуса. "Каб усе хрысціянскія сем'і адчувалі стымул аднавіць такую ж атмасферу блізкай еднасці, любові і малітвы, якой жыла Святая Сям'я, поўны адпуст удзяляецца за малітву св. Ружанца ў сем'ях і між заручанымі", — гаворыцца ў дэкрэце.

У кантэксце таго, што св. Юзаф з'яўляецца абаронцам людзей працы, поўны адпуст змогуць атрымаць усе, "хто будзе штодзённа давяраць сваю дзейнасць абароне св. Юзафа, а таксама кожны вернік, які ўзнясе малітвы праз заступніцтва Рамесніка з Назарэту, каб тыя, хто шукае працу, маглі знайсці яе, і каб праца ўсіх была больш годнай".

Поўны адпуст змогуць атрымаць таксама вернікі, якія памоляцца Літаніяй да св. Юзафа ці Акафістам да св. Юзафа, поўным тэкстам ці прынамсі яго часткай (для візантыйскай традыцыі), або любой малітвай да св. Юзафа, уласцівай іншым літургічным традыцыям, у інтэнцыі Касцёла, якія перасследуецца ad intra і ad extra, і аб суцяшэнні душы ўсіх хрысціян, якія пакутуюць ад розных форм праследу.

Каб нанова сцвердзіць "паўсюднасць апякунства" св. Юзафа, у дапаўненне да згаданых магчымасцей Апостальская Пэнітэнцыярыя прапануе магчымасць поўнага адпусту вернікам, якія памоляцца да св. Юзафа ці здзейсняць акт пабожнасці ў яго гонар 19 сакавіка і 1 мая, у свята Святой Сям'і Езуса, Марыі і Юзафа, у Нядзелю св. Юзафа (згодна з візантыйскай традыцыяй), а таксама ў 19-ы дзень кожнага месяца і кожную сераду, якая прысвечана святому, згодна з лацінскай традыцыяй.

У кантэксце надзвычайнай эпідэміялагічнай сітуацыі дар "поўнага адпусту асаблівым чынам распаўсюджваецца на пажылых людзей, на хворых і паміраючых, на ўсіх, хто па законных прычынах не мае магчымасці выходзіць з дому". Для атрымання адпусту ім патрэбна адсутнасць прывязанасці да граху, намер паспавядацца, як толькі гэта стане магчымым, выканаць тры звычайныя ўмовы, а таксама ўчыніць акт пабожнасці ў гонар св. Юзафа, суцяшыцеля хворых і апекуна добрай смерці, з даверам ахвяруючы Богу пакуты і нязручнасці свайго жыцця.

Апостальская Пэнітэнцыярыя заклікае святароў, надзеленых адпаведнымі паўнамоцтвамі, з гатоўнасцю і велікадушнасцю прысвяціць сябе сакрамэнту споведзі і ўдзяленню св. Камуніі хворым.

*По матэрыялах Беларускай рэдакцыі Vatican News*



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Тэрэза Варановіч** *(Докшыцы)*, **Вера Шыкшнян** *(Гірэйшы)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Валянціна Мурзенак** *(Паставы)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Алена Ціннікава** *(Мінск)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Ганна Лук'янская** *(Пялікі)*, **Ядвіга Мядвецкая** *(Сталіца)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Пасынак Л.Э** *(Сарокі)*, **Вашкель Р.М.** *(Дворнае Сяло)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Марыя Лубнеўская** *(Камарова)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Мурашка Ф.С.** *(Даўгінава)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Лізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Юзэфа Мількевіч** *(Веркаўшчына)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Геня Ермаковіч** *(Завараты)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Марунько Н.Н.** *(Новалукомль)*, **Роўда Э.Ц.** *(Новалукомль)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Вольга Завацкая** *(Полацк)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Ірына Ананьева** *(Верамееўка)*, **Аліна Гайлеўская** *(Туркава)*, **Тэрэза Цвіклінская** *(Шунеўцы)*, **Аляксандр Лычкоўскі** *(Мінск)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Махальская Е.І.** *(Падсвілле)*, **Валерыя Шакель** *(Лугі)*, **Вяршэль Я.Ф.** *(Вігушкі)*, **Таццяна Сапель** *(Браслаў)*, **Таццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Станкевіч А.З.** *(Валожын)*, **Тэрэса Балтромун** *(Бастуны)*, **Рэйшэль Алена і Віктар** *(Петрашэўцы)*, **Елізавета Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Віталь Ракуцкі** *(Браслаў)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Лазучэнка Р.В.** *(Браслаў)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Іван Сіманенак** *(Паставы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **парафіяне з Чашнікаў**, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Балай Е.М.** *(Мосар)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Жук С.В.** *(Мосар)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Анэля Кашкур** *(Павяцце)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Тэрэза Лешчык** *(Сарокі)*, **Соф'я Юковіч** *(Сарокі)*, **Эмілія Клепацкая** *(Сарокі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6262

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.12.2020 г. у 09.33

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь